ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 5 (2303) 4 лютага 1993 г. Выдаецца з 1955 г.



**Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін СНД, якая павінна была адбыцца яшчэ ў канцы 1992 года і якая не раз адкладвалася, а таму ёй прадракалі не надта суцяшальныя перспектывы, нарэшце прайшла ў Мінску 22 студзеня. Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч у інтэрв'ю японскаму тэлеграфнаму агенцтву Кіёда-Цусін назваў яе вынікі "вельмі рэзультатыўнымі". "Мы прадэманстравалі ўменне знаходзіць узаемапрымальныя рашэнні пры вельмі розных падыходах", — заявіў ён.**

**Мінская сустрэча завяршылася без сенсацый. Адзін з важнейшых дакументаў — Статут СНД — праўда, падпісалі толькі 7 з 10 дзяржаў, але пад агульнай заявай аб Статуце паставілі свае подпісы ўсе. Было прынята рашэнне аб заснаванні Міждзяржаўнага банка, падпісана пагадненне аб міждзяржаўным рэгуляванні рынку каштоўных папер.**

**Дык як ацэняць сустрэчу ў народзе — крок у якім накірунку? Да ўмацавання Садружнасці? Да аднаўлення імперыі? Ці проста разумны крок да паратунку ў нашай бядотнай сітуацыі?**

**НА ЗДЫМКУ: Мінск, 22 студзеня 1993 года. Нарада краін СНД.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

*ПАЛЕМІКА*

## ПЛЮЮЦЬ НА СОНЦА І НА ДЗЕНЬ

*І не бойцеся тых, што забіваюць,*
*а душу не чапаюць; бойцеся больш*
*таго, хто і душу, і цела губіць...*

**Евангелле ад Мацвея, раздзел 10, верш 28.**

Здаецца, за 70 гадоў панавання таталітарнага рэжыму зроблена больш, чым патрабавалася, для канчатковага адлучэння беларусаў , аднаго са старажытнейшых славянскіх народаў, ад свайго слаўнага мінулага. Выкараняліся спрадвечныя дзедаўскія звычаі і нацыянальныя традыцыі, сістэматычна выкошвалася кожная новая генерацыя інтэлігенцыі. Няўмольныя апрычнікі бязлітасна абрушвалі "караючы меч партыі" нават на тых беларусаў, што шчыра вызнавалі самае перадавое ў свеце вучэнне, але не рвалі духоўных каранёў са сваім народам. Сціналі галовы за гэтак званы нацыяналізм і ў сумленных рускіх па нацыянальнасці навукоўцаў. Чорнае сібірскае прадонне паглынула ў 1931 годзе таленавітага мастацтвазнаўцу і гісторыка М.Шчакаціхіна. Панавала татальная атмасфера нечуванага дагэтуль у свеце тэрору, вобразна ахрышчанага простым людам хапуном. Заахвочваліся даносы дзяцей на бацькоў, юнакоў прымушалі публічна зракацца бацькі і маці, а тым часам у нетрах партыі нараджаецца страшэнная па сутнасці і жорсткасці пастанова, якая дазваляла прыгаворваць да расстрэлу падлеткаў. Небяспечна было і думаць, і гаварыць, і нават маўчаць.

І вось цяпер, калі народ ухапіў засмаглым ротам глыток вольнага паветра, а "розум, гонар і сумленне эпохі" адышла ў нябыт, знаходзяцца абаронцы гэтай пачварнай антычалавечай сістэмы. Яшчэ не высахла кроў на руках катаў, не зажылі рубцы ў мільёнаў іхніх ахвяраў, а гэтыя нелюдзі, з нахабствам гледзячы ў вочы людзей, спрабуюць зноў загнаць народ на нары адміністрацыйна-каманднай казармы, зноў дэкларуюць сябе адзінымі абаронцамі народных інтарэсаў.

Адным з напрамкаў наступу былых партакратаў з'яўляецца гісторыя беларускага народа. Махляры з вялікім практычным вопытам добра ведаюць, што народ, пазбаўлены свайго мінулага, лёгка ператварыць у чараду бязвольнага і паслухмянага насельніцтва.

Дзеля зразумення злачынна-пачварнага характару антынароднай палітыкі сучасных апалагетаў імперскай мадэлі развіцця грамадства неабходна краем вока заглянуць у мінулае, пра якое, дзякуючы шматлікім "дабрадзеям", мы амаль нічога не ведаем.

Па ўсім белым свеце расцярушылася наша багатая спадчына: што трапіла ў суседскія засекі і ўзбагаціла іх гісторыю і культуру, што схавана ад народа ў замшэлых камяніцах недасяжных даследчыкам архіваў і звышсакрэтных "спецхранаў", куды не было ходу нават самым "заслужаным" памагатым у знішчэнні гістарычнай памяці. Шмат беззваротна загінула ў полымі шматлікіх войнаў, нямала, трэба прызнаць і гэта, страчана па сваёй уласнай, недаравальнай абыякавасці і інертнасці, празмернай шчырасці і даверлівасці. А тое, што зберaглося ў народнай памяці, бессаромна скажалася і фальсіфікавалася. "Пакуль царызм, — з невымоўным болем пісаў шырока вядомы гісторык У.Пашута, — шкуматаў і калечыў Украіну, Беларусь, Літву і іншыя народы ў рэальным жыцці, гісторыкі рабілі тое самае з гісторыяй гэтых народаў у сваіх працах".

Была яшчэ адна прычына, якая абумоўлівала перацяканне здабыткаў нацыянальнага розуму ў аналы іншых народаў. Калі, напрыклад, у 1696 годзе правячыя колы Рэчы Паспалітай скасавалі дзяржаўнасць беларускай мовы, а ў канцы XYIII стагоддзя Расія, Прусія і Аўстрыя анексавалі Рэч Паспалітую, у тым ліку і Вялікае Княства Літоўскае, і яно, разарванае на часткі, перастала існаваць, таленавітыя людзі, якіх вылучаў беларускі народ, былі цалкам пазбаўлены магчымасці развівацца на нацыянальнай глебе. Прыроднае імкненне чалавека да самасцвярджэння вымушала яго рэалізоўваць свой творчы патэнцыял у межах чужой культуры, галоўным чынам, польскай або расійскай.

Возьмем колькі прыкладаў з вайсковай гісторыі.

Генерал-фельдмаршал, член дзяржаўнага савета, славуты герой вызваленчага паходу ў Балгарыю 1877—1878 гадоў, кавалер ордэнаў святога Георгія, уладальнік залатой шаблі з брыльянтамі, улюбёнец тагачасных грамадскіх колаў і гвардыі І.Гурко быў беларусам, паходзіў з малодшай лініі роду Рамейкаў-Гуркаў. Але хто сёння пра гэта ведае? Магчыма, пра гэта не здагадваюцца і балгары, што ўвекавечылі імя нашага земляка ў назве адной з цэнтральных вуліц Сафіі.

А вось Тадэвуш Касцюшка, нацыянальны герой Польшчы, брыгадны генерал амерыканскай арміі, кіраўнік паўстання 1794 года, паходзіць з беларускага роду Касцюшак—Сяхновіцкіх. Дом у Мерачоўшчыне, што каля Косава Івацэвіцкага раёна, у якім маці пусціла Касцюшку на белы свет, на вялікі жаль, знішчаны ў апошнюю вайну.

Руская і польская гістарыяграфіі пазбягаюць звычайна спамінаць пра этнічныя карэнні знакамітых выхадцаў з Беларусі. Але, калі, як кажуць, прыпякала, сёй-той згадваў пра паходжанне нашых землякоў. Так, аўтары "Адозвы да грамадзян Беларусі" (21 ліпеня 1812 года) выказвалі спадзяванне, што беларусы будуць "годнымі імёнаў продкаў сваіх" і стануць "пад харугвы Хадкевіча, Радзівіла, Сапегі, Сангушкі" — сваіх суайчыннікаў і далучацца да Генеральнай канфедэрацыі Каралеўства Польскага. А выдадзены 28 чэрвеня 1812 года ў Варшаве Акт гэтай жа Канфедэрацыі абяцаў, што "справядлівае неба не пакрыўдзіць узнагародай і прыспешыць хвіліну, калі братняя Пагоня з Белым арлом зноў рыцарскія тарчы і нацыянальныя сцягі аздобіць".

Мінула дваццаць гадоў, і зноў палякі завуць беларусаў да барацьбы за волю "айчыны двух народаў" (Рэчы Паспалітай. — **С.Ц.**). Вядомы польскі гісторык і грамадскі дзеяч Іаахім Лялевель палымяна гаварыў у сеймавай прамове пра супольныя інтарэсы Кароны (уласна Польшчы. — **С.Ц.**) і Вялікага Княства Літоўскага: "У многіх войнах імёны Хадкевічаў, Радзівілаў спалучаліся з імёнамі каронных гетманаў". Спамянуў Корсака і Рэйтана. "Заўсёды мы бачылі ў літвінах, — гаварыў далей аратар, — чынных і мужных сабратаў. Каго яшчэ не забыць? Пачобутаў, Нарушэвічаў? І Касцюшка быў літвін!"

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ІНІЦЫЯТЫВА БЗВ*

### "СЛАВЯНСКІ ДЭМАКРАТЫЧНЫ ФОРУМ"

**З ініцыятывай стварэння новай міжнароднай грамадскай арганізацыі "Славянскі дэмакратычны форум" выступіла выканаўчая Рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў.**

**У звароце Рады да грамадскіх дзеячаў, грамадскіх і палітычных арганізацый адзначаецца, што ў выніку развалу таталітарных рэжымаў практычна ўсе славянскія дзяржавы аказаліся ў стане глыбокага палітычнага і эканамічнага крызісу. Рэальнай стала і пагроза процістаяння славянскіх народаў адзін аднаму. Стварэнне ж такой арганізацыі, як "Славянскі дэмакратычны форум", можа садзейнічаць каардынацыі дзейнасці грамадскіх арганізацый славянскіх дзяржаў у вырашэнні вострых праблем, правядзенні рэформаў. Дзейнасць Славянскага форуму павінна грунтавацца на прынцыпах суверэннасці славянскіх дзяржаў, непарушнасці граніц паміж імі, прыярытэце праваў асобы, праваў славянскіх народаў на захаванне і развіццё нацыянальных культур, развіцці адносін з неславянскімі дзяржавамі.**

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

### ПАСЛЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Прыняты Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб назначэнні Віктара Даніленкі Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Расійскай Фэдэрацыі; Ніны Мазай — Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы; Анатоля Мардовіча — Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Швейцарскай Канфедэрацыі.**

*"Беларускаму народу, калі ён хоча адрадзіцца, неабходна ў самы кароткі тэрмін ліквідаваць нацыянальную непісьменнасць, вярнуцца да роднай мовы і нацыянальнай культуры, ад якіх ён ужо амаль тры стагоддзі так трагічна адарваны. Мы павінны навучыцца ад нашых суседзяў — палякаў, рускіх, літоўцаў — гарачай прывязанасці да роднай мовы, роднай культуры. Павінны, як і ўсе цывілізаваныя народы, развіваць пачуццё нацыянальнага гонару. Разам з гэтым не павінны ўпусціць таго шанцу, які даюць нам нацыянальныя рысы характару — нашая памяркоўнасць і талерантнасць. Менавіта гэтыя рысы беларускага нацыянальнага характару дазваляюць нам паказаць прыклад сапраўды гуманных адносін да чужынцаў, у якім сіла падпарадкоўвалася б справядлівасці, а любоў і пашана да свайго народа не суседнічалі з пагардай да народаў іншых".*

*Сяргей ГАБРУСЕВІЧ,*
*прафесар,*
*старшыня Гродзенскай суполкі Беларускага фонду культуры.*

*УЗНАГАРОДА ПАТРЫЯРХА*

### ЗА БУДАЎНІЦТВА ЦАРКВЫ

**Ордэнам святога Уладзіміра трэцяй ступені ўзнагародзіў Патрыярх усея Русі Алексій II старшыню калгаса "Маладая гвардыя" Драгічынскага раёна Віктара Верамейчыка. Па ініцыятыве кіраўніка гэта гаспадарка затраціла звыш аднаго мільёна рублёў на ўзвядзенне ў вёсцы Ліпнікі храма Прасвятой Багародзіцы. Сёлета калгас выдзеліў яшчэ 400 тысяч рублёў на аплату працы мастакоў, якія займаюцца роспісам царквы.**

*ПЕРАЙМЕНАВАННЕ*

### СВЯРДЛОВА НА ЛАСТОЎСКАГА

**Абмеркаваўшы шэраг прапаноў, камісія па назвах і перайменаванню вуліц і плошчаў Мінскага гарвыканкома вырашыла перайменаваць вуліцу Свярдлова ў вуліцу Вацлава Ластоўскага, вуліцу Мяснікова ў вуліцу князя Глеба Менскага, вуліцу Берсана ў вуліцу Адама Станкевіча. Адносна новых назваў цяперашніх вуліц Валадарскага і Урыцкага думкі раздзяліліся. Адны прапаноўвалі перайменаваць вуліцу Валадарскага ў вуліцу кн. Рагвалода, Урыцкага — у вуліцу кн. Рагнеды. Іншыя, адпаведна, у Гарадскі Вал і Раманаўскую Слабаду. Канчаткова лёс назваў гэтых вуліц павінен у хуткім часе вырашыць гарвыканкам. А ў будучыні памяняюць свае назвы таксама вуліцы Савецкая, Камсамольская і Інтэрнацыянальная.**

*ВІЦЕБСКІЯ ФЕСТЫВАЛІ*

### "СЛАВЯНСКІ БАЗАР"

**Музычнае свята ў Віцебску "Славянскі базар", якое ўпершыню прайшло ў мінулым годзе, відаць, стане традыцыйным, і ўжо праз паўгода над Дзвіной зноў загучаць яго пазыўныя. Аб сваёй гатоўнасці гэтым летам арганізаваць і правесці "песенную фіесту" афіцыйна заявілі яе заснавальнікі: Беларускі саюз "Зніч" дапамогі ахвярам чарнобыльскай аварыі, маскоўская фірма "Ірыда", кіеўская канцэртна-творчая арганізацыя "Рок-Акадэмія" і Віцебская дырэкцыя фестываляў. "Славянскаму базару" абяцаюць падтрымку і апякунства Міністэрствы культуры Беларусі і Расіі, дэпартамент па культуры пры прэзідэнце Украіны.**

*ДОБРЫ ЖЭСТ*

### АНГЛІЙСКІ ЦЭНТР

**Культура, бізнес, маркетынг — гэтыя навукі цяпер змогуць спасцігаць дзеці Брэста ў англійскім цэнтры. Яго стваральнікі — амерыканцы Вольга і Тэдор Райс. На радзіме продкаў Вольгі яны вырашылі вучыць мясцовых дзяцей і падлеткаў англійскай мове.**

**У Брэст ужо дастаўлены пяць тысяч падручнікаў і кніг самай рознай тэматыкі, відэа- і аўдыяфільмы, іншыя дапаможнікі для ўдасканалення ведаў па англійскай мове. Як падкрэсліў на прэзентацыі Тэадор Райс, галоўная мэта цэнтра — аб'яднаць і зблізіць людзей, садзейнічаць узаемаразуменню, мірнаму супрацоўніцтву і існаванню на агульнай планеце.**

*САЛАДЗЕЙШАЯ ЗА ЦУКАР*



**Зменшыць дэфіцыт цукру ў рэспубліцы можа ў перспектыве цуд-трава стэвія, культываваннем якой заняліся беларускія вучоныя.**

**Гэтая дзіўная расліна, радзіма якой — Парагвай, завезена ў Беларусь з Нікіцкага батанічнага саду. Прыгатаваныя з яе парашкі па салодкасці ў 300 разоў перавышаюць цукар. Цяпер вучоныя Інстытута эксперыментальнай батанікі АН Рэспублікі Беларусь і Інстытута земляробства і кармоў працуюць над праграмай культывавання стэвіі і атрымання з яе салодкіх рэчываў. Ужо распрацаваны тэхналогіі чаранкавання і вырошчвання гэтага цуда ў закрытым грунце, спосабы сушэння і вырабу парашкоў, рэцэпты чайных напіткаў на яе аснове. Немалаважна, што прэпараты са стэвіі — выдатнае лякарства для людзей, якія пакутуюць на цукровы дыябет, атлусценне. Цяпер гэтыя лекавыя сродкі набываюцца за валюту.**

**НА ЗДЫМКУ:** цуд-трава.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

КАБ ПЕРАМАГЧЫ спекулянтаў, якія скуплялі дзесяткамі білеты ў касах чыгункі, а потым іх прадавалі з рук па неймавернай цане, на вакзалах Беларусі ўведзены новы парадак продажу білетаў на паязды, якія ідуць за межы рэспублікі. У білет упісваецца прозвішча пасажыра, а пры пасадцы ў вагон правяраецца пашпарт.

У 1992 ГОДЗЕ на тэрыторыі Гродзенскай вобласці ў кантрабандыстаў адабрана каляровага металу больш, чым за апошнія 5 гадоў яго было прынята на прамысловую перапрацоўку мясцовым прадпрыемствам "Вторцветмет".

ЦЯПЕР аўтобусы з Віцебска на Рыгу, Смаленск, Бранск і ў большасць аддаленых гарадоў Беларусі ідуць толькі па выхадных днях. Адмена штодзённых рэйсаў тлумачыцца адсутнасцю запасных частак да аўтобусаў.

ПЕРШЫ прыватны магазін, дзе прадаецца зброя, адкрыты ў Мінску. Пакуль што тут можна набыць пнеўматычную зброю, але ў хуткім часе кліентам абяцаюць паляўнічую і спартыўную агнястрэльную зброю.

КОЛЬКАСЦЬ дамоў адпачынку ў рэспубліцы скарацілася з 16 ў 1980 годзе да 11 у 1992-м, а колькасць месцаў у іх з 35,6 тысячы да 2,8 тысячы.

З-за дарагоўлі мала адпачываючых і ў прафсаюзных санаторыях. Напрыклад, у санаторыях Брэсцкай вобласці пуцёўка каштуе ад 15 да 36 тысяч рублёў.

УРАГАН, які нядаўна пранёсся па Смаргоншчыне, нарабіў вялікай бяды. У раёне пацярпела 111 сялянскіх дамоў і гаспадарчых пабудоў, калгасныя гаражы, жывёлагадоўчыя фермы. Моцна пашкоджана царква ў Міхневічах і Дом культуры ў Вішневе. Агульная лічба ўрону складае больш за 13 мільёнаў рублёў.

ПАВОДЛЕ даных нацыянальнага банка Беларусі, за першыя два тыдні 1993 года на рынку безнаяўнай валюты рэспублікі прададзена 1 819 732 долары ЗША і 546 300 марак ФРГ. Сярэдні курс за гэты перыяд склаў 542 рублі за 1 долар ЗША і 323 рублі за 1 марку ФРГ. Аб'ём куплі-продажу замежнай валюты няспынна расце.

САМАЕ малое на 2 мільёны рублёў абліччыў за мінулы год пакупнікоў Оршы як камерцыйныя, так і дзяржаўныя магазіны. На такую суму выяўлены завышэнні цэн на 24 прадпрыемствах гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання.

*СУПРАЦЬСТАЯННЕ*




**Палітыкі і народ. Толькі ў часы "развітога сацыялізму" прапаганда малявала іх у "братэрскіх" абдымках. Цяпер жа народ адкрыта гаворыць, чаго вартыя сённяшнія палітыкі і ў што ацэньваюцца іх праграмы і мэты. Розныя людзі, розныя пласты грамадства, розныя меркаванні.**

**На гэтым здымку вы бачыце тых, хто прыйшоў 22 студзеня да будынка, дзе адбывалася нарада кіраўнікоў дзяржаў і членаў урадаў краін Садружнасці. У іх свае стаўленне да падзей.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ

# ДАБРОМ ЗА ДАБРО

Было гэта ў 1963 годзе. Калектыў мастацкай самадзейнасці з Ашмянскай школы-інтэрната выступаў перад вайскоўцамі горада Смаргоні. Я дэкламаваў вершы ў ліку першых. Да канца праграмы заставаўся вольны час, і мне захацелася пахадзіць па мясцінах, адкуль пайшлі баранкі, дзе калісьці на ўсю Еўропу грымела мядзведжая акадэмія... На маім шляху аказаўся прыгожы сад, а ў ім корпалася бабуля і нешта спявала сабе.

— Аб чым вы так прыгожа пеяце? — звярнуўся я да яе.

— Песню пра казака і татараў...

Нікуды я далей не пайшоў, а бабульчына песня так і засталася са мною:

**Цёмна ночка наступае.**
**Гэй! Цёмна ночка наступае,**
**Сон галоўку абнімае.**

**Едзе казак і думае.**
**Гэй! Едзе казак і думае:**
**— Дзе ж я буду начаваці?**

**Пушчу каня на даліну.**
**Гэй! Пушчу каня на даліну,**
**А сам лягу на гадзіну.**

**Шчаслівая гадзіначка.**
**Гэй, шчаслівая гадзіначка,**
**К яму прыйшла дзяўчыначка.**

**— Уставай, казак, досыць спаці.**
**Гэй! Уставай, казак, досыць спаці,**
**Йдуць татары ваяваці!**

**Йдуць татары ваяваці.**
**Гэй! Йдуць татары ваяваці,**
**Хочуць каня твайго ўзяці.**

**Цябе заб'юць маладога,**
**Гэй! Цябе заб'юць маладога,**
**Каня возьмуць варанога...**

**Каня возьмуць — другі будзе.**
**Гэй! Каня возьмуць — другі будзе.**
**Цябе заб'юць — мне жаль будзе.**

Праўда, тады мне спачатку прыйшлося паслухаць яе жудасныя расказы пра татарскія набегі і здзекі.

Гартаю кнігу "Бяздоннае багацце" і чытаю народнае паданне пра "Багатыр-гару": "Даўно-даўно на гэтай гары жыла вялікая жанчына. Ростам гэтая жанчына была тры аршыны. Ваду яна насіла на гору вялікімі цэбрамі, па два цэбры за адзін раз, а ў кожным цэбры было па 15 судаў.

Каля той гары ішло нейкае татарскае войска. І запыталіся ў гэтае жанчыны-багатыркі, дзе дарога да беларускага войска. Жанчына-багатырка ўзяла ды і завяла войска татарскае ў балота, дзе яго беларускае войска і пабіла. Рэштка татарскага войска, уцякаючы назад, забіла жанчыну-багатырку і пахавала на гэтай гары. Гара і стала звацца пасля таго — Багатыр-гара".

Прыводжу гэтыя звесткі і думаю не аб татарах-насільніках, а аб татарах, якія з спрадвечных часоў жылі на гэтай зямлі і сталі неаддзельнай часткай нашага беларускага народа, як яўрэі, цыганы, літоўцы, латышы, рускія, украінцы, палякі... І ўсё гэта адлюстравана дакументальна. Дастаткова тут прывесці адну з пісьмовых крыніц: "Вярнуўся вялікі князь Вітаўт з паходу пад Азоў у 1395 годзе з перамогай і прывёў з сабою вялікую колькасць татараў з ліку ўзятых у палон. Паселеным на беразе ракі Вакі (прыток Віліі) у Лідскім, Ашмянскім, Наваградскім паветах татарам ён даў правы грамадзянства, свабоду веравызнання і звычаяў. Тым, хто не меў жонак, ён даў дазвол жаніцца з мясцовымі дзяўчынамі, з умовай мець не болей адной жонкі..."

Да гэтых часін і адносяць заходнія татары год свайго пасялення на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Яны рыхтуюцца хутка адзначыць 600-годдзе свайго прыходу на Беларусь. Ды аказваецца, што ў гасцінных землях Беларусі яны аселі яшчэ раней. Аб гэтым гавораць шматлікія археалагічныя знаходкі, асабліва манеты, якія адносяцца да IX-X стагоддзяў. Праглядаючы энцыклапедычны даведнік "Гродна", я знайшоў звесткі, што толькі ў вёсцы Ракаўцы на Смаргоншчыне былі знойдзены 2 скарбы манет (1971 і 1987 гады). Першы даў 827 экземпляраў дырхэмаў Арабскага Халіфата (закапаны ў X стагоддзі), другі — 2 446 экземпляраў сярэбраных дырхэмаў (закапаны ў IX-X стагоддзях).

Флавіян Дабранскі ў сваіх "Актах пра літоўскіх татараў" адзначае, што яны ў 1319 годзе пры вялікім князі Гедыміне ўдзельнічалі ў бітвах супраць тэўтонцаў. Францысканцы яшчэ ў 1324 годзе зрабілі абвестку, што на нашых землях яны бачылі нейкіх людзей, якія маліліся паазіяцку.

Аб з'яўленні татараў у нас ёсць шмат поглядаў і здагадак. Але, на маю думку, лепей за ўсіх яшчэ да рэвалюцыі напісаў сам жа татарын родам з Навагрудчыны Алі (Антон) Мухлінскі, ён жа прафесар Пецярбургскага універсітэта. Вось што вучоны даводзіў: "Татарскае насельніцтва ўзнікла... з трох элементаў:

1) з аселых наёмных і саюзных войск татарскіх орд;

2) з улусаў, што былі прыгнаны Вітаўтам і трапілі ў палон разам з татарамі і, нарэшце,

3) з выхадцаў, што, стаміўшыся ад нязгоды ў сваёй Айчыне, самі добраахвотна перасяліліся ў Літву".

Пры Вітаўце вялікім татары неслі ваенную службу, апрацоўвалі зямлю — былі выдатнымі агароднікамі, займаліся гарбарствам. Агароднікі, як правіла, былі выхадцы з Хазарскага каганата. Але асноўная частка татараў — гэта палонныя і выхадцы з Залатой Арды, а трохі пазней — з крымскіх татараў.

Імя вялікага князя Вітаўта і па сёння шануюць сярод беларускіх татараў, яны звалі яго сваім Ханам, Гаспадаром, Спадаром, і многія гады на працягу стагоддзяў у адзін з дзён яны моляцца за яго душу. Кажуць, што слова "спадар", як скарочанае ад гаспадар, пайшло ад татараў.

Наогул, трэба аддаць належнае гэтаму вялікаму кіраўніку, імкнучыся захаваць мір у самай буйной дзяржаве Еўропы, ён здолеў нават ворагаў зрабіць сваімі сябрамі. Вітаўт вялікі прыгрэў у сябе ў 1387 годзе хана Белай Арды Тахтамыша і пасяліў яго ў Лідскім замку.

Прадбачанне жыць у дружбе з татарамі, надзяляць іх прывілеямі дапамагло не толькі Беларусі, але і Літве тадышняй, Польшчы выстаяць перад самым жудасным ворагам гэтых народаў — Тэўтонскім ордэнам. Як напісаў аб тэўтонцах у "Гражыне" вялікі польскі паэт родам з Беларусі Адам Міцкевіч: "З крыжаноснай псарні прыбыў таць, сабака, раступсцеўшы ад літоўскай крыві".

У славутай бітве пад Грунвальдам (сучасныя літоўцы завуць гэта месца Жальгірысам, немцы ад вёскі Таненбергам, што знаходзілася непадалёк, у нашых летапісах ён мае найменне Дуброўна і яшчэ — Дубровенскія палі) вызначыліся і татары. На нашай мове сёння Грунвальд гучыць, як Зялёны Гай. Так што тут мы не будзем далей прыводзіць гэта іншаземнае слова, а будзем пісаць так: "У бітве народаў пад Дуброўнам, ці Зялёным Гаем, аб'яднанае войска Літоўскай Русі і Кароны Польскай пры ўдзеле ўгорскіх і чэшскіх атрадаў і 40-тысячнай конніцы татараў нанесла сакрушальны ўдар крыжакам".

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

---

*РЭКЛАМА — НОВАЯ ПРЫКМЕТА СУЧАСНАГА ЖЫЦЦЯ*

# "НАБУДУ — ПРАДАМ ОПТАМ УСЁ"

Доўгія гады мы сваёй рэкламы не мелі, а чужую лаялі. Ды і сапраўды, навошта навязваць тавар, калі яго не хапае або зусім няма, а што датычыцца Захаду, дык калі там усё дрэнна, чаму з рэкламай справы павінны былі ісці інакш? Сёння ў нас тавараў стала яшчэ менш (што само па сабе здаецца неверагодным). Рэклама ж у літаральным сэнсе захліснула старонкі нашых перыядычных выданняў, эфір і экраны тэлевізараў. І не мае ніякага значэння, ці гэта маленькі, з густам зроблены шэдэўр (а менавіта такой павінна быць сапраўдная рэклама), ці грубая падробка. Яе будуць "круціць" па тэлевізары ці множыць мільённымі тыражамі газеты і часопісы столькі разоў, колькі за яе заплачана. Аб'ядноўваюць жа нашу рэкламу на сучасным этапе дзве рэчы: яна ніколі не рэкламуе тавар, які заўтра ж можна набыць у магазіне; паслугі, якія рэкламуюцца, па кішэні толькі тым, да каго зараз прынята звяртацца: "Господа!". Звычайнаму ж чалавеку, якіх, як і раней, у гэтай краіне большасць, убачыўшы рэкламу "лепшага ў свеце ігрыстага віна спецыяльна для вас", хочацца пайсці на кухню і выпіць кілішак роднай горкай, каб стойка перанесці наступную рэкламу, якая запросіць правесці Каляды на Багамах. Пра цэны на тавары і паслугі рэклама не распавядае: каму трэба — запішуць тэлефон, у каго грошай няма — і так зразумеюць, што такія забавы не для іх.

"На "Мерседэсе" нашай фірмы вы паедзеце ад усіх вашых непрыемнасцей!", "Туры ў Арабскія Эміраты!", "Апранайцеся толькі ў Ле-Монці!", "Стыль жыцця ад Холдзінгцэнтра!"... Вясёлыя, выпешчаныя, жыццярадасныя людзі глядзяць з тэлевізійных экранаў у халодныя дамы, дзе заўчасна пастарэлыя жанчыны са смуткам і жахам думаюць, чым заўтра карміць сям'ю, і крычаць ад безвыходнасці на сваіх дзяцей, якія, наглядзеўшыся той жа рэкламы, просяць батончыкі "Марс" ці "Снікерс".

Што гэта? Здзек? Мэтанакіраванае давядзенне народа да сацыяльнага выбуху? Думаю, не. Проста гэта — багатыя і бедныя. Паралельныя светы, якія існуюць незалежна адзін ад аднаго і сутыкаюцца вельмі рэдка.

Тлумачэнне гэтай сітуацыі вельмі простае: хто плаціць, той і заказвае музыку. А грошы зараз ёсць толькі ў багатых. Таму і музыка не танная.

Але ж гэта — пра рэкламу дарагую. А ёсць і яшчэ адзін яе від, паслугамі якой карыстаўся, хоць аднойчы, амаль кожны. Гэта — звычайная аб'ява, дзе прапануецца набыць, абмяняць, купіць. Яшчэ некалькі год таму рэкламны дадатак да гарадской газеты "Вячэрні Мінск" займаў усяго чатыры старонкі і выдаваўся невялікім тыражом. Сёння — гэта шматпалоснае выданне, да якога далучаюцца новыя. Рэкламу і аб'явы сёння друкуюць практычна ўсе газеты.

У раздзеле гарадскога абмену кватэр (ён, як правіла, ідзе першым) з'явілася новая прыкмета нашага часу: да традыцыйных характарыстык жылля — колькасці метраў ці пакояў — далучылася слова "прыватызаваная". Людзі атрымалі магчымасць стаць уласнікамі маёмасці, і многія ўжо зрабілі гэта. Некага, праўда, палохаюць чуткі, што хутка ўзнімуцца падаткі на нерухомасць, але ўпэўненасць, што хаця б дзеці будуць забяспечаны кватэрамі, перамагае страх.

Наступны раздзел рэкламы — абмен жылля паміж гарадамі ў межах СНД. За кароткімі, невыразнымі, на першы погляд, радкамі стаіць жаданне часам не толькі змяніць месца жыхарства, але і чыесьці пакуты, слёзы, апошнія надзеі. "Трохпакаёвую ў Душанбе на аднапакаёвую ў Мінску"... "Двухпакаёвую ў Тбілісі на аднапакаёвую ў Мінску"... Не ад добрага жыцця людзі кідаюць утульныя кватэры і наседжаныя месцы, спадзеючыся знайсці тут, у спакойным Мінску, хай не такое камфортнае, але бяспечнае жыццё. Нацыянальнае пытанне, што так абвастрылася ў апошні час, прымушае вяртацца на гістарычную радзіму і многіх беларусаў, якія дагэтуль спакойна жылі ў самых розных кутках былога СССР.

Але большую частку рэкламных дадаткаў займаюць аб'явы пад рубрыкамі "Куплю" і "Прадам". Што толькі не прапануюць набыць, ад чаго толькі не жадаюць пазбавіцца! Дык вось, калі ў вас узнікне такая неабходнасць, вы з лёгкасцю можаце набыць мядзведжую жоўць, парадны шынель з фуражкай маршала авіяцыі, шыкоўны аўтамабіль "Руса-Балт" мадэлі 1912 года (на хаду), бронежылеты, а таксама "маладога сінявокага, з добрымі манерамі, белага ката". Калі ў вас ёсць грошы, можаце адгукнуцца вось на такую вясёлую аб'яву: "Ту-ту! Ту-154М мы прададзім вам без праблем!" Часам сустракаюцца прапановы, якія нагадваюць шыфроўкі замежнай разведкі: "Ранісан, сумамед, цыпрабай, сумалін" ці "гермецік семіконаўкі". Напэўна, каму трэба, зразумеюць... Лепш за ўсё сітуацыю з купляй-продажам адлюстроўвае вось гэтая кароценькая аб'ява: "Набуду-прадам оптам усё".

Калі чытаеш гэтыя аб'явы, міжволі ўзнікае пытанне: як жа так — усё ёсць, але нічога няма?! Іншымі словамі, усе скардзяцца, што ў жабрацкай краіне збяднелыя людзі пакутуюць без самага неабходнага, на самай жа справе набыць можна ўсё, ад мядзведжай жоўці да самалётаў. Тлумачыцца гэта, на мой погляд, вельмі проста: сапраўды, наш спажывецкі рынак таварамі не насычаны, не хапае ўсяго, і таму, калі чалавек раптам атрымлівае магчымасць нешта набыць, ён "хапае" ўсё, незалежна ад таго, патрэбна яму рэч ці не, прычым, адразу на ўсе грошы. Калі не спатрэбіцца самому, то можа некаму са знаёмых, сваякоў ці суседзяў, да таго ж рэчы, у адрозненне ад грошай, не абясцэньваюцца. Вось таму кватэры часта нагадваюць склады, а нашы адносіны — натуральны абмен, характэрны для эпохі феадалізму. Дарэчы, яшчэ адна рубрыка рэкламных выданняў так і называецца — "Мяняю".

Мяняюць усё на ўсё — афіцэрскія шынялі на жаночыя пуховыя паліто, дачы на кватэры, 768 КБОЗУ на МК 88, гарэлку на бензін... Попыт нараджае прапанову. Напэўна, таму так імкліва пашыраецца раздзел "Паслугі". І зноў жа здаецца: варта толькі затэлефанаваць ці адправіць па ўказанаму адрасу пэўную суму, і ўсе вашы праблемы адразу вырашацца. Вам дапамогуць падрасці на 5 сантыметраў у месяц, навучаць чорнай магіі, паставяць без чаргі тэлефон, вызваляць ад службы ў арміі (так, прапануюць і такое, хаця гэта ўжо — крымінал), ўсяго за сто рубл"ёў параяць, як зарабіць восем мільёнаў за год. Таксама ўсяго за адзін долар вы можаце атрымаць рэцэпты нагаворнага зелля, замовы на каханне і вяселле. Можаце завітаць на вечар са шматабяцаючай назвай "Багатыя таксама плацяць", але ж сама назва гаворыць, што гэтая забава — не для ўсіх. Дарэчы, са з'яўленнем багатых з'явіліся і спецыфічныя паслугі спецыяльна для іх. Аб'явы, прызначаныя дзелавым ці забяспечаным людзям, пачынаюцца менавіта са слоў — "Паслугі для забяспечаных", каб незабяспечаныя дарма не турбаваліся. Што прапануюць? Суправаджэнне, ахову, кругласутачную дастаўку спіртнога, цыгарэтаў, дэсерта, арганізацыю адпачынку, а таксама бытавыя і інтымныя паслугі. Што датычыцца апошніх,то складваецца ўражанне, быццам тых, хто жадае аказаць канфідэнцыяльныя паслугі дзелавым людзям, значна больш, чым саміх дзелавых людзей. Не так даўно адна з гарадскіх газет распачала кампанію па барацьбе з парнаграфіяй, эротыкай і іншай распустай. Праз некаторы час у рэдакцыю пачалі прыходзіць лісты абураных чытачоў, якія не маглі зразумець, чаму газета на адной старонцы друкуе артыкулы аб чысціні нораваў, а на другой — аб'явы аб інтымных паслугах. Газета паабяцала больш так не рабіць і абяцанне выканала. Прапановы інтымных паслуг зніклі, а вось нумары тэлефонаў, дзе іх можна атрымаць, засталіся. Проста зараз гэта гучыць зусім інакш: "Панове! Мы арганізуем вам адпачынак лепш, чым вы можаце сабе ўявіць". Такая ж гісторыя адбылася з аб'явамі пра куплю-продаж ордэнаў і медалёў. Пасля таго, як абураныя чытачы запатрабавалі, каб газеты перасталі друкаваць аб'явы аб гандлі нашай памяццю, пад ужо знаёмымі тэлефонамі з'явіліся новыя фармулёўкі: "Куплю нагрудныя знакі".

Сярод усіх гэтых аб'яў давялося мне знайсці і такія: "Дапаможам адзінокім людзям", "Тэлефон даверу для адзінокіх". Я вельмі ўзрадавалася і пазваніла па ўказаных нумарах. Але адразу ж высветлілася, што паслугі гэтыя — платныя і далёка не ўсе адзінокія могуць імі карыстацца. Што датычыцца тэлефона даверу, наўрад ці многім захочацца расказваць пра свой боль, пазіраючы на гадзіннік і думаючы пры гэтым, колькі будуць каштаваць споведзь і парады.

На жаль, мяняецца наша жыццё не ў лепшы бок. Для многіх выданняў, а таксама для радыё і тэлебачання рэклама сёння амаль адзіны сродак выжыць. Але ж усё часцей з сумам заўважаеш, што нашы перыядычныя выданні і тэлевізійныя перадачы, якія бясконца перапыняюцца рэкламай, усё больш і больш нагадваюць стары плот, дзе матляюцца брудныя і неахайныяліcткі аб'яў.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

РЭДАКТАРУ ГАЗЕТЫ
"ГОЛАС РАДЗІМЫ"

# АДКРЫТЫ ЛІСТ АЎСТРАЛІЙСКІМ СУАЙЧЫННІКАМ

Шаноўныя спадары!

У студзені 1993 года спачатку ў "ЛіМе", а потым і ў газеце "Голас Радзімы" быў змешчаны зварот да Рады Міністраў і Вярхоўнага Савета Беларусі за подпісамі прадстаўнікоў розных беларускіх арганізацый, што дзейнічаюць за- раз у Аўстраліі. У звароце выказана нязгода з тым, што на шчыце (тарчы) дзяржаўнага герба Беларусі змешчана выява "Латарынгскага" крыжа, замест "Ярылава Крыжа", альбо "двукрыжжа" з шасцю роўнымі канцамі.

Пры гэтым сцвярджаецца, што "латарынгскі" крыж ніколі "не красаваўся на шчытах "Пагоні", ні Вялікага Княства Літоўскага", а князь Ягайла не меў ніякага дачынення да геральдычнага фармавання "Пагоні".

Мяне вельмі здзіўляе такая пазіцыя аўтараў Звароту і асабліва яго стыль, які нагадвае мне публікацыі зацятага змагара з гербам "Пагоні" і бел-чырвонабелым сцягам таварыша Корзуна. Відаць, праўду кажуць людзі, якія адзначаюць, што супрацьлегласці заўжды сыходзяцца ў нейкай кропцы.

Я не ведаю, у войсках якіх дзяржаў служылі і на якіх франтах ваявалі палкоўнік Ул.Шнэк і інжынер-лейтэнант А.Шнэк, але, відаць, вайсковая кар'ера не дазволіла ім атрымаць належных ведаў у галіне геральдыкі. Тое ж самае можна, відаць, сказаць і пра дасведчанасць у гэтай справе і іншых "падпісантаў" з Аўстраліі.

Таму я вымушаны ў сціслай форме адказаць Вам, шаноўныя спадары, па сутнасці ўзнятага вамі пытання.

Сапраўды, калі мы адкрыем замежныя даведнікі і слоўнікі, асабліва польскія, то знойдзем там наступныя вызначэнні: латарынгскі крыж, які падобны да крыжа на нашым дзяржаўным гербе, і славутае "Двукрыжжа" пад назваю літоўскага альбо ягелонскага крыжа. А вось такога вызначэння, як "Крыж Ярылы" Вы не знойдзеце на старонках сур'ёзных энцыклапедычных выданняў. І гэта не выпадкова, бо паганскі бог Ярыла ніколі не меў шчыта з хрысціянскім крыжам. Вось як, напрыклад, апісвалі выяву Ярылы этнографы ў сярэдзіне XIX стагоддзя: Ярыла "... ездзіць на белым кані, на ягоных плячах белая мантыя, на галаве ў яго вянок з палявых веснавых кветак, у левай руцэ ён трымае жытнія каласы".

"Двукрыжжа" на шчыце выявы Ярылы атрымана пазней, у канцы XIX і асабліва ў першай палове XX стагоддзя (успомнім, напрыклад, малюнкі Язэпа Драздовіча). І гэта не выпадкова, бо ў 1918 годзе герб "Пагоню" абвясцілі дзяржаўным дзве новыя дзяржавы — Літоўская Рэспубліка і БНР. Пасля таго як БНР была знішчана, "двукрыжжа" стала прапісалася ў цэнтральнай частцы герба Літвы (Летувы). Гэтаму паспрыяла і вызначэнне такога тыпу крыжа, як "літоўскі крыж". У той час літоўскія гісторыкі ўдала скарысталі блытаніну паміж вызначэннямі "гістарычная Літва" і сучасная "Летува" і ўсе тэрміны з прыметнікам "літоўскі" цалкам прыпісалі да сваёй гісторыі. У верасні 1991 года герб Літвы (Летувы) быў зменены, але "двукрыжжа" ў крыжу зменены форме засталося.

Калі мы параўнаем выявы "класічнага" латарынгскага крыжа з крыжам на нашым гербе, то адразу заўважым, што яго канцы маюць пашыраны напрыканцы ўсіх перакладзін. І гэта не выпадкова, бо ля вытокаў крыжа на шчыце герба "Пагоня" знаходзіцца не латарынгскі, а тым больш не літоўскі, а так званы патрыяршы крыж. Яго выява спачатку мела месца на геральдычных знаках візантыйскіх імператараў, а потым разам з хрысціянствам трапіла на Беларусь. Таму і Еўфрасіння Полацкая, якая мела сваяцкія сувязі з візантыйскімі імператарамі, заказала Лазару Богшы вырабіць крыж такой формы.

Дарэчы, спачатку ў XIII–XIV стагоддзях на гербе "Пагоня" выява шчыта з крыжам наогул адсутнічае. Хроніка Літоўская і Жамойцкая, Густынскі летапіс таксама нічога не паведамляюць пра тое, што вершнік з мячом на белым кані мае яшчэ і шчыт з крыжам.

Упершыню шчыт з патрыяршым крыжам у дзяржаўны герб увёў менавіта князь Ягайла, які спачатку быў праваслаўным. Самая ранняя выява Ягайлы з адпаведным крыжам на шчыце датуецца 1418 годам і знаходзіцца ў капліцы св.Тройцы ў Любліне. Дарэчы, фрэскавы роспіс люблінскай бажніцы зроблены пры ўдзеле беларускіх мастакоў.

Потым дзяржаўны герб ВКЛ з патрыяршым крыжам мы бачым спачатку на надмагіллі Ягайлы ў Вавельскім кафедральным касцёле, а потым сярод фрэсак у капліцы св. Крыжа пры Вавельскім касцёле, якая была распісана ў 1470 годзе. Дарэчы, менавіта тады гэты крыж атрымаў назву ягелонскага, ягоную выяву можна ўбачыць на саркафагу Казіміра Ягелончыка.

Такім чынам, у аснове сучаснага дзяржаўнага герба Беларусі ляжыць першы гатычны варыянт герба "Пагоня", які быў пашыраны ў XV стагоддзі, у той час, калі ВКЛ дасягнула найбольшага росквіту і аб'ядноўвала ўсю этнаграфічную Беларусь. У XVI стагоддзі, асабліва пасля Люблінскай уніі, патрыяршы крыж на шчыце "Пагоні" быў заменены на літоўскі. У той час шчыт на гербе атрымаў таксама і сіні колер, што не зусім адпавядала славянскай бела-чырвонай каляровай гаме "Пагоні".

Што да Славакіі, то патрыяршы крыж трапіў на яе герб таксама з Візантыі, праз сваяцкія сувязі венгерскіх каралёў з візантыйскім імператарскім домам.

Напрыканцы хачу дадаць, што больш падрабязныя звесткі па гэтым пытанні шаноўнае спадарства атрымае, калі звернецца да адпаведных публікацый у "Народнай газеце" (ад 6 снежня 1991 года) і ў "Звяздзе" (ад 19 верасня 1992 года). Хацелася б таксама спадзявацца на тое, што рэдакцыя газеты "Голас Радзімы", якая "з вялікім задавальненнем" надрукавала зварот нашых аўстралійскіх суайчыннікаў, з такім жа задавальненнем дашле ім ксеракопіі вышэйзгаданых газетных артыкулаў, а таксама цудоўную кніжку А.Цітова "Наш сімвал — "Пагоня", якая нядаўна з'явілася ў кнігарнях.

**АЛЕГ ТРУСАЎ,**
**намеснік Старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, Старшыня Камісіі па забеспячэнню адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.**

У ЦР БСДГ

# ПЕРШЫ ПЛЕНУМ

**Першы пасля другога з'езда Грамады Пленум Цэнтральнай Рады БСДГ адбыўся ў Менску 23 студзеня 1993 года.**

**Спачатку быў абраны новы выканаўчы орган партыі, выканком Грамады ў складзе 23 чалавек. Кіраўніком спраў ЦК БСДГ быў зноў прызначаны Мікола Кійка.**

**Было вырашана, што пры выпадку адсутнасці ці хваробы старшыні ЦР БСДГ яго абавязкі будуць ускладацца на аднаго з намеснікаў старшыні — народнага дэпутата Беларусі Міколу Крыжаноўскага.**

**Цэнтральная Рада Грамады палічыла мэтазгодным увайсці ў склад заснавальнікаў Фонду братоў Луцкевічаў — стваральнікаў сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі.**

**Былі таксама створаны восем пастаянных камісій ЦР БСДГ. Сярод іх можна вылучыць Камісію па эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму развіццю (старшыня — прафесар Уладзімір Кулажанка), Камісію па сувязях з прафсаюзамі (старшыня Уладзімір Васьковіч), Камісію па міжнародных справах і сувязях з сацыял-дэмакратычным рухам за межамі Беларусі (старшыня Міхась Патрэба) і Камісію па вайсковых пытаннях (старшыня — падпалкоўнік Мікалай Бюркоў).**

**У шэрагі Грамады былі ўрачыста прыняты настаўніца гісторыі спадарыня Урбан і беларуская паэтка і журналіст Галіна Булыка.**

**У той жа дзень адбыліся абласныя канферэнцыі Грамады. Мінскую абласную раду БСДГ узначаліў народны дэпутат Беларусі Лявон Дзейка, Віцебскую — народны дэпутат Беларусі Віктар Какоўка, а Гродзенскую — сябра гродзенскай гарадской філіі Грамады спадар М. Слесарчук.**

**ЦР Грамады прыняла таксама рашэнне ўвайсці ў аргкамітэт па падрыхтоўцы святкавання 75-х угодкаў абвяшчэння БНР. На гэтыя мэты было выдаткавана 10 000 рублёў.**

БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ

# ДАБРОМ ЗА ДАБРО

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Ёсць запіс у адной з ордэнскіх хронік, што вялікі магістр тэўтонцаў Ульрых фон Юнгінген быў скінуты з каня і забіты татарскім ханам Багардзінам, але потым паляк і сфальшавалі гэты факт. А кіраваў татарскім войскам у гэтай бітве сябар князя Вітаўта вялікага султан Джалал-эд-Дзін. Як адзначаюцьназіральнікі бітвы пад Дуброўнам, беларускія татары адбілі і вялікі польскі сцяг, яны на поўным скаку выпусцілі град стрэл, з-за чаго крыжакі завагаліся і дзяржаўны сцяг Кароны Польскай быў вернуты. Такім чынам, гонар палякаў уратавалі татары.

У сваёй кнізе "Крыніцы беларуска-літоўскага права" вучоны-юрыст І.Юхо піша: "Беларуская татары карысталіся правамі вольных людзей, а іх князі, уланы, маршалкі, харунжыя і ўласнікі зямлі — правамі шляхты. У Статут 1566 года былі ўнесены артыкулы, якія трохі абмяжоўвалі правы татараў, але ўжо ў 1568 годзе была выдадзена грамата, якой гэтыя артыкулы адмяняліся і ўсе правы і льготы татараў аднаўляліся ў поўнай меры".

Вывучаючы матэрыялы пра татараў, я знайшоў і яшчэ адно паданне пра іх пад назвай "Возера Красны Стаў": "Калі Клецка князь Міхаіл Глінскі ў 1506 годзе атрымаў вядомую перамогу над татарамі, загінула іх там каля дваццаці тысяч. Трупамі сваімі яны загацілі ўсё возера, так што вада ў ім зрабілася чырвонай. Ад таго возера і празвалі Красны Стаў".

Што трэба сказаць, у гэтым паданні апісаны сапраўдныя падзеі. Сам Міхаіл Глінскі з татараў (яго род паходзіць ад самога Мамая), і ён на самай справе разбіў буйное татарскае войска пад Клецкам на рацэ Лань. Захопленыя палонныя былі паселены ў Мінску, Смілавічах, Капылі, Слуцку, Клецку і ў некаторых іншых мясцінах. Як вядома, у Мінску доўгі час існавала Татарская слабада, спачатку там была драўляная мячэць, а пасля была пастаўлена каменная. Цяпер у гэтым месцы праходзіць праспект імя Пятра Машэрава (былая Паркавая магістраль), на татарскіх агародах стаіць Палац спорту, а прыгажуню мячэць знеслі ўжо ў нашыя часы.

Паглядзім, да прыкладу, чым займаліся татары ў Капылі. Тут здаўна жылі выхадцы мангольскіх плямёнаў. Іх хаты блізка стаялі адна каля адной на дзвюх вуліцах — Татарскай і Замкавай. Частка з іх складала асабістую ахову князя, а астатнія займаліся вырабам аўчын і скуры, агародніцтвам і земляробствам.

З Капыля паходзіць і славуты беларускі даследчык гісторыі беларускай літаратуры татарын Сцяпан Хусейнавіч Александровіч. Яго кніга "Тут зямля такая" прайшла разам са мною і Забайкалле, і Далёкі Усход, і стэпы Арэнбуржжа і цяпер заўсёды на маім рабочым стале. А яшчэ вядомы яго творы "Крыжавыя дарогі", "Гісторыя і сучаснасць", "Вальнадумец з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі", "Далёкія зарніцы", "Пуцявіны роднага слова"...

Жывучы сярод дружалюбнага беларускага народа, частка татараў прыняла мясцовыя звычаі, веру і мову, а другая, знаходзячыся ў міры і дружбе з суседзямі, захавала свае рысы, магаметанства, займалася спрадвечнымі сваімі рамёствамі. Для татараў захавалі і іх адміністрацыю — харунжыя (ваенная), маршалкі (земская), кадзей (судзей).

Для адпраўлення магаметанскай веры татарам было дазволена мець мячэці. Як правіла, яны будаваліся без мінарэтаў і толькі драўляныя (мінская мячэць была выключэннем). Трэба сказаць, што польскія правіцелі пад уздзеяннем касцёльных іерархаў вельмі часта забаранялі татарам не толькі будаваць, але і рамантаваць свае храмы.

На беларускай мове татары арабскім пісьмом пісалі кітабы (кнігі). Выхаднымі днямі ў татараў лічацца пятніцы.

Вельмі цікавыя звесткі пра татараў трапляюцца ў краязнаўчых кнігах. Прыгадаем "Лунінец" М.Калінковіча: "У Кажан-Гарадку, к прыкладу, ёсць вуліца Майдан, што ў перакладзе з цюркскага азначае "плошча", "базар". Аб асіміляцыі прышэльцаў Чынгісхана на Палессі сведчаць і шырока распаўсюджаныя ў Лунінцы і раёне прозвішчы Бут-Гусаім, Скіба, Ліч, Біліба, Кучук..."

У XVI стагоддзі ў Рэчы Паспалітай (у асноўным на Беларусі) жыло каля 40 тысяч татараў, а ўжо праз стагоддзе іх налічвалася каля 100 тысяч. Калі-нікалі прыходзіцца чуць слова "татары-караімы". Ці проста — караімы. Усё тут у адрозненях веры. Караімы, як і яўрэі, вызнаюць іудаізм. Гэтыя татары, як правіла, выхадцы з Хазарскага кагната.

Як адзначае Д.Чорны ў сваёй кнізе "Клецк": "Татары бралі сабе прозвішчы ад назваў тых маёнткаў, двароў, дзе жылі. Князь Найман-Бег, напрыклад, узяў шлюб з дачкою баярына літоўскага Крышына. Таму і прозвішча яго Крышынскі. Другія брапі прозвішчы сваіх жонак. На тэрыторыі цэнтральнай часткі Беларусі — у Мінску, Навагрудку, Слоніме, Крынках, Васілішках, Вішневе, Стоўбцах, Крэве, Нясвіжы, Ляхавічах, Клецку, Смалявічах і іншых мясцінах асела задонскае племя, або ардынскае. Яно сфарміравалася ў Літве з былых салдат літоўска-татарскіх палкоў і ваеннапалонных, узятых Літвой у час вайны з крымскімі татарамі.

У 1588 Статут літоўскі (раздзел 12, артыкул 9) папярэджваў, каб яўрэі, татары і "ўсякі бусурман" не былі чыноўнікамі і не трымалі хрысціян у няволі. Маглі толькі купленых хрысціян выкарыстоўваць на адпрацоўках тэрмінам да 7 гадоў. Куплясць у вечную няволю забаранялася. Гэтым жа статутам і канстытуцыяй 1607 года адмяняліся ўсялякія правы і прывілеі, дадзеныя татарам раней. За час праўлення Зыгмунта III эміграваў з Рэчы Паспалітай у Крым і Турцыю да 30 тысяч татараў. Тыя ж, якія засталіся на тэрыторыі Беларусі, служылі ў арміі, ахоўвалі замкі, палацы, панскія ўладанні. Многія займаліся агародніцтвам, некаторыя рамествамі".

Месцам паломніцтва — святыняй для беларускіх татараў з'яўляецца мізар (могілкі) вёскі Лоўчыцы, што знаходзіцца недалёка ад Навагрудка (першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага). Тут пахаваны святы Костус. Да магілы былога пастушка, які, па паданнях, валодаў дарам пераносіцца да труны Магамета (Мухамеда) у Медзіну, пастаянна сцякаецца народ. На месцы хаджу (паломніцтва) побач з магілай святога Костуса для веруючых пастаўлена лаўка.

Сёння найвялікшая колькасць беларускіх татараў жыве ў раённым цэнтры Іўе, што на Гродзеншчыне (каля 800 чалавек), ёсць тут і мячэць, пабудаваная яшчэ ў 1889 годзе. Кожны год у Іўі шырока адзначаецца татарскае мусульманскае свята рамазан, якое працягваецца цэлы месяц. Шмат чаго ў гэтым свяце імпануе і мне: на гэты месяц трэба забыцца пра спрэчкі, памірыцца з ворагамі і зласліўцамі, не крыўдзіць слабых людзей, не дапускаць грахоў, лепшы кавалак мяса аддаваць гаротнаму чалавеку.

Цяпер у Гродне і Мінску створаны абласныя татарскія грамадска-культурныя аб'яднанні "Аль-Кітабы". Беларусь, якая стала радзімай для татараў, можа яшчэ многа зрабіць для іх росквіту, бо яны заўсёды дабром адказвалі на дабро.

Як кажуць беларускія татары: "Салям-алейкум — Алейкум ас-салям!" — "Мір вам — і вам мір таксама".

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.**

# ПЛЮЮЦЬ НА СОНЦА І НА ДЗЕНЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Тут неабходна заўважыць, што ў мінулым літвінамі называлі беларусаў, а Беларусь — Літвой. Каталіцкі святар Хрысціян, які быў з верасня 1254 года біскупам Вялікага Княства Літоўскага, пісаў у сваіх успамінах: "Літва, або Літванія, — край славянскі". Вядомы гісторык XIX стагоддзя М.Кастамараў прытрымліваўся гэтай жа думкі: "Літва" — гэта назва беларускага краю і беларускага народа". Аналагічнае сведчанне прыводзіць і польскі даследчык А.Брукнер: "Беларусь мае мову адметную ад польскай, маларускай і велікарускай. Гісторыя Беларусі старэйшая і слаўнейшая за гісторыю Маларусі і Велікарусі, але яна схавана пад назвай "Літвы".

Дарэчы, жыхары некаторых вёсак Івацэвіцкага раёна дагэтуль лічаць сябе літвінамі. "Мы беларусы, але праўдзівей літвіны", — тлумачыў аўтарам акадэмічнай манаграфіі "Этнагенез беларусаў" (Менск, 1985 год) сівы дзядок. Польскія, рускія, украінскія даследчыкі, напрыклад, Асоўскі Л., Ляўшын А., Дамантовіч М., Гамалія К., Віткоўскі В., Бялецкі-Насенка П., прыводзяць перакан аўчыя даныя аб тым, што этнонім "літвіны" шырока выступаў і ў якасці экзаэтноніма. Літвінамі называлі беларусаў украінцы не толькі ў XVII—XVIII стагоддзях, але і ў XIX, і нават пачатку XX стагоддзяў.

Няведанне гэтай істотнай акалічнасці амаль цалкам выключае беларусаў з гістарычнага працэсу Вялікага Княства Літоўскага, генератарам і творцам якога былі менавіта іхнія прашчуры. Не хто іншы, як яны, і з'яўляюцца бясспрэчнымі спадкаемцамі вялікай дзяржавы і багатай культуры. Для апраўдання анексійнай і асімілятарскай палітыкі, якую польскія каралі і рускія цары праводзілі на Беларусі, гэты факт на працягу некалькіх стагоддзяў старанна замоўчваўся і менавіта таму не стаў здабыткам грамадскай свядомасці. Штучны гістарычны вакуум з езуіцкай выкрутлівасцю і сёння выкарыстоўваюць мастакі жангліравання праўдай, розныя, гаворачы словамі Янкі Купалы, ворагі беларушчыны. Нечуваны віск і вэрхал усчалі носьбіты "вялікага і магутнага", як толькі азваўся беларус і памкнуўся стаць упоравень са старэйшым братам, быць роўным сярод роўных. Несусветная хлусня, неверагодныя інсінуацыі, шэльмаванне, паклёп, пагрозы мутным патокам амаль штодзень выліваюцца на галовы чытачоў. Ідзе правакацыйнае запалохванне грамадзянскай вайной, холадам, голадам. Рыхтык гэтак жа некалі палохалі Фінляндыю, а цяпер грашовая дапамога фінскага беспрацоўнага, як паведамляла "Комсомольская правда", значна перавышае зарплату эстонскага прэм'ера.

Галоўная мэта антыбеларускай кампаніі — закінуць у душы людзей сумненне, пасеяць няўпэўненасць, збіць іх з панталыку, не даць узняцца на ногі і ў выніку скіраваць хаду гісторыі на любыя сэрцу, залітыя крывёю мільёнаў рэйкі, ну і, зразумела, аднавіць сваё прывілеяванае становішча. І "в борьбе за это" не грэбуюць ніякімі сродкамі: грубай фальсіфікацыяй мінулага, абразай нацыянальнай годнасці, ахайваннем беларускай мовы, але галоўны канёк у паклёпнікаў — навешванне ярлыкоў, абвінавачванне ў нацыяналізме, распальванні варожасці да рускага народа. Знаёмы почырк, выпрабаваная на працягу многіх гадоў вывучка. Ды і што застаецца рабіць, нагана да патыліцы не прыставіш, у ГУЛАГ не адправіш. Часы не тыя. Вось і даводзіцца небаракам, як кажуць у народзе, высмоктваць аргументы з пальца і аплёўваць народ, які іх нават намёкам не пакрыўдзіў. Дык адкуль жа гэтая пячорная злосць і пагарда? Адкуль?

Каб пазбегнуць абвінавачвання ў галаслоўнасці, прывядзём некалькі, гэтак кажучы, тыповых прыкладаў, красамоўных па невуцтву і хлусні. Нехта А.Шарафядзюлін з апломбам дылетанта катэгарычна адмаўляе беларускі характар Вялікага Княства Літоўскага ("Во славу Родины", 1.12.92 года) і ў доказ прыводзіць, як яму здаецца, забойчы пасаж: "...дык чаму ж яно называлася і называецца Вялікім Княствам Літоўскім?". І тут жа, выкрываючы "падманшчыкаў", дае адказ: "Яны гнулі і гнуць сваё: "раней беларусы зваліся літвінамі". Ды таму і зваліся, што былі грамадзянамі Літвы". Дазвольце спытацца: чаму ж украінцы, якія на працягу некалькіх стагоддзяў таксама былі "грамадзянамі Літвы", не зваліся літвінамі, больш таго, адрознівалі сябе ад іх. Пра Івана Выгоўскага, які быў у 1657—1659 гадах гетманам запарожскага войска, украінскія казакі гаварылі: "Ему нэ можна вірыты, бо він Лытвын". Яўрэяў і цыганоў, падданых Вялікага Княства Літоўскага, ніхто, ніколі і нідзе не адносіў да літвінаў. А вось беларусы былі імі. Звернемся другі раз да аўтарытэта сусветна вядомага даследчыка А.Брукнера: "Мы ўсе гаворым "літоўскі", "літвін", але гэта толькі замест "беларускі", "беларусін".

Ліст ваш, паважаны таварыш Шарафядзюлін, вымушае параіць вам хоць зрэдку заглядваць у слоўнікі рускай мовы, якую, гэтак жа, як і гісторыю, трэба ведаць, каб павучаць іншых. Вось вы пішаце, што ў Вялікім Княстве Літоўскім "язык белорусский обслуживал большую колонию белорусов". Па-першае, беларуская мова была на працягу некалькіх стагоддзяў дзяржаўнай і абслугоўвала ўсё насельніцтва дзяржавы, нават выкарыстоўвалася, як піша знакаміты рускі гісторык С.Салаўёў, у міжнародных зносінах, напрыклад, з Масквою. А па-другое, беларусы былі карэннымі жыхарамі Вялікага Княства Літоўскага і жылі, як кажуць, спрадвеку на сваёй зямлі, а вы іх зрабілі чужаземцамі. Заглянем у слоўнік У.Даля: "Колония — население иноземцев, поселок выходцев, переселенцев из другой земли".

Нічога няма страшней за невуцтва, ваяўнічае, агрэсіўнае, замешанае на непадстаўнай нянавісці да ўсяго, што не супадае з ідэалогіяй "Кароткага курсу ВКП(б)". Менавіта такія думкі выклікаюць тырады другога "вялікага знаўцы" беларускай гісторыі нейкага В.Раманава з-пад Мінска, прыведзеныя ў артыкуле "Смеясь, он дерзко презирал..." ("Во славу Родины", 24.12.92 года). Прачытаўшы іх, хочацца старанна вымыць рукі, але працытуем адну з іх, каб чытач яскрава адчуў смярдзючы пах крымінальнай абразы і пагарды: "...за всю историю белорусского народа из его недр вышел лишь один человек, имя которого знает и почитает весь мир, — Франциск Скорина, и не было никогда ни белорусского государства, ни его армии, как ни пытаются в тщетных потугах доказать обратное националисты всех мастей". Вось так: "Хочаш плач ці давіся ад смеху"! Адным словам, што пігмеі, недачалавекі маглі даць чалавецтву?! Каменціраваць чыстай вады трызненне тое самае, што рабіць прышчэпку ад шаленства тэлеграфнаму слупу. Чытач самастойна разбярэцца, што да чаго.

Шчыльнымі шэрагамі рушылі супраць беларушчыны і генералы. Але высокія чыны і веданне гісторыі, на вялікі жаль, не заўсёды стыкуюцца. Адзін бравы і яшчэ больш самаўпэўнены генерал грэбліва адмахнуўся ад агульнавядомай у арміі ісціны і наважыўся пакласці на лапаткі ажно цэлую групу гісторыкаў-прафесіяналаў, аўтараў нарыса "Забытая слава". Што з гэтага атрымалася, здагадацца няцяжка: наваяўлены эрудыт пляснуўся ў смуродную лужыну. Падобным чынам яскрава прадэманстраваў усю бяздонную глыбіню свайго гістарычнага нядосведу не хто іншы, як генерал-лейтэнант Ю.Іваноў.

Опус з доўгай і прэтэнцыёзнай назвай "Состряпанная слава, или Оружие против братства славянских народов" (Политика Позиция Прогноз. N 11/15/, лістапад 1992 года) заслугоўвае асобнага разгляду, што, мабыць, далучыўшы да купы публіцыстыку іншых генералаў, неабходна зрабіць найбліжэйшым часам. А пакуль абмяжуемся некалькімі кароткімі заўвагамі: няхай чытач ведае, хто ўзяўся абліваць брудам старажытную гісторыю беларусаў і вядомых беларускіх вучоных.

У першай калонцы свайго артыкула генерал адразу, як гаворыцца, па-вайсковаму з ходу ўзбагаціў гістарычную навуку шэрагам адкрыццяў. Вось адно з іх: "У сярэдзіне 30-х гадоў XIII стагоддзя, у 1263 годзе, асноўныя літоўскія землі пасля ўзмацнення вялікага княскага прастолу аб'ядналіся ў Вялікае Княства Літоўскае пад уладай Міндоўга". Узнікае пытанне, каралём якой дзяржавы быў Міндоўг дзесяць гадоў назад, бо дакладна вядома, што ў 1253 годзе ў прысутнасці прадстаўнікоў Папы Рымскага і цэсара Свяшчэннай рымскай імперыі ў Наваградку адбылася яго ўрачыстая каранацыя.

Дарэчы, Міндоўга забілі ў тым жа годзе, якім аўтар датуе ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага, хаця яно, як вядома, узнікла ў 1236—1240 гадах.

І яшчэ: не зразумела, як мог існаваць "вялікі няскі прастол" да Вялікага Княства Літоўскага?

І яшчэ: якія гэта "а с н о ў н ы я (разбіўка наша. — **С.Ц.**) літоўскія землі"? А якія не асноўныя? На якіх з іх жылі аўкштайты і жамойты, сённяшнія этнічныя літоўцы, а дакладней, летувісы? А дзе знаходзілася ўласна Літва, гістарычная, ад якой і паходзіць лексема "Літва"? Чытаеш генеральскую пісаніну і дзіву даешся: ніводнага пераканаўчага аргумента, ніводнае сцвярджэнне не вытрымлівае нават павярхоўнай крытыкі. Прынцып адзін: усё ахаяць, ачарніць, а аўтараў ашэльмаваць. Дужа не падабаюцца таварышу Ю.Іванову назвы тыпу "Беларуска-літоўская дзяржава", а доказаў абвергнуць іх праваможнасць няма, вось ён і піша ў адным месцы: "Надакучліва ўжываецца тэрміналогія...", у другім безапеляцыйна сцвярджае, што літоўскія вучоныя не прызнаюць існавання беларуска-літоўскай дзяржавы. Зноў мана чыстай вады. На шэрагу сустрэч, напрыклад, у Гервятах, беларускія, літоўскія і польскія вучоныя прыйшлі да высновы: былое Вялікае Княства Літоўскае ў Літве называць літоўска-беларускім, на Беларусі — беларуска-літоўскім як агульную спадчыну двух народаў.

Яшчэ больш не падабаецца генералу зварот беларускіх вучоных да забароненых раней старонак гісторыі нашага краю, а менавіта да падзей вайны 1654—1667 гадоў, падчас якой Беларусь страціла кожнага другога жыхара, а іх Бацькаўшчына была амаль дашчэнту зруйнавана. Аўтары нарыса "Забытая слава", падсумоўваючы вынікі вайны, праўдзіва, нават змякчаючы і абыходзячы вострыя вуглы, пішуць: "Здаецца, ніколі больш краіна не перажывала гэтакай трагедыі". А маглі б напісаць і пра масавы партызанскі рух на захопленай тэрыторыі, і пра Магілёўскае паўстанне 1661 года, і пра тое, чаму мсціслаўцаў праззвалі недасекамі, і пра паходжанне прымаўкі: "Ад чорта адхрысцішся, а ад маскаля не адмолішся: ад маскаля полы ўрэж ды ўцякай" ("Живописная Россия". Раздзел "Белорусская Смоленщина". Спб., 1882.).

Дык чаму ж вы, паважаны генерал, каламуціце ваду, забараняеце ажно цэламу народу ведаць сваю гісторыю, падмяняеце яе міфамі? Ці не таму, што ў скаламучанай вадзе лягчэй лавіць рыбку? Ах, вас непакоіць русафобія, якую быццам бы распаліць веданне гісторыі. Наадварот, замоўчванне і наўмыснае скажэнне мінулага ставарае тую спрыяльную атмасферу, у якой прывольна жывецца і лёгка дыхаецца розным палітычным дзялкам і авантурыстам.

Рускія прагрэсіўныя вучоныя сумленна пісалі аб усіх перыпетыях ва ўзаемаадносінах Расіі з Вялікім Княствам Літоўскім і Рэччу Паспалітай. Асобныя пытанні, якія сёй-той марна імкнецца аспрэчыць, аб'ектыўна асвятляліся савецкімі гісторыкамі, калі хоць крыху расшморгвалася пятля цэнзуры. У манаграфіі А.Мальцава "Россия и Белоруссия в середине XIX века", напрыклад, чытач знойдзе праўдзівую карціну стаўлення беларускага сялянства да так званых вызваліцеляў у перыяд руска-польскай вайны 1654—1667 гадоў.

Але былі ў Расіі і такія даследчыкі, што дзеля апраўдання захопніцкай палітыкі царызму бессаромна выварочвалі гісторыю навыварат і атручвалі недасведчаны народ шавіністычным дурманам. Пачуццё горычы, гідлівасці і абразы адчуваеш, чытаючы пра беларусаў такое вось трызненне: "сардэчна-дапытлівы позірк велікаруса замяніўся на тупы, баязлівы; замест адкрытасці характару — падазронасць і нелюдзімасць, замест велікарускай здольнасці да ўсяго і кемлівасці — гультайства і тупасць розуму".

Кінулі ў беднага беларуса і вы, таварыш генерал, падобны камячок бруду, але хітра, прыкрыўшыся постаццю В.Ключэўскага. У цытаце, якую, вы, дарэчы, прыцягнулі да падзей вайны 1654—1667 гадоў літаральна за вушы, насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага вялікі гісторык называе напаўдзікай язычніцкай літвой. Нават сам ваш зварот менавіта да гэтага гісторыка раскрывае пазіцыю і напрамак генеральскага мыслення. З усіх рускіх гісторыкаў вы абралі ідэйна роднаснага вам даследчыка. Выхаваны ў вернападданніцкім духу ў сям'і правінцыяльнага святара і ў духоўнай семінарыі, Ключэўскі і пасля заканчэння універсітэта застаўся зацятым прыхільнікам канцэпцыі дзяржаўнай школы, карацей кажучы, апалагетам веры, цара і айчыны, разумеючы айчыну ў імперскім маштабе. Лічыў Расію бясспрэчнай спадкаемніцай былой Візантыйскай імперыі, падтрымліваў ідэю ўключэння яе тэрыторыі ў склад уладанняў дома Раманавых. Усё гэта разам узятае абумовіла тэндэнцыйнасць інтэрпрэтацыі многіх падзей і фактаў гісторыі. За што, дарэчы, вядомага гісторыка крытыкавалі калегі і адкрыта адзначалі, што гісторыя ў яго "изложении не всегда беспристрастна". Гэта сказана мякка, у манеры акадэмічнай прыстойнасці.

Працы Ключэўскага найперш каштоўныя факталагічным матэрыялам, выкарыстоўваць яго неабходна крытычна, у супастаўленні з іншымі крыніцамі, пажадана архіўнымі, што недаступна аматарам з прычыны некампетэнтнасці і адсутнасці цэльнага бачання гістарычнай перспектывы. А рознага роду пасквільянтам ісціна не патрэбна: яны вышукваюць у гісторыі факцікі пад ужо гатовыя схемы, а страшней за ўсё падтасоўка іх, перакручванне на імперскі капыл.

Імкнучыся абяліць захопніцкую палітыку царызму, а заадно выкрыць аўтараў "Забытай славы" ў фальсіфікацыі, Ю.Іваноў пачынае жангліраваць словамі. "Воссоединение белорусских земель с Россией, — піша ён, — произошло не в результате их захвата, а при трёх разделах Речи Посполитой". Тут язраз да месца згадаць рускую прымаўку: "Что в лоб, что по лбу", бо падзелы гэтыя адбываліся не палюбоўна, а пад збройным прымусам. Нічым іншым, як рабункам, вы б не назвалі ўчынак суседзяў, калі б яны прыйшлі да вас у кватэру і падзялілі між сабою ўсю нажытую вамі маёмасць. Ды і К.Маркс з вамі не згодзен, прытым прынцыпова, пішучы, што імперыялістычныя Расія, Аўстрыя і Прусія, бы згаладалыя сабакі, накінуліся і разарвалі Рэч Паспалітую. У памяць далучэння беларускіх земляў да Расіі Кацярына II выбіла памятны медаль з гістарычна недарэчнай выявай драпежнага арла з картай Беларусі ў хціва сагнутых кіпцюрах. Зверху паўкругам надпіс: "Вернута страчанае". Бязглуздасць надпісу ў тым, што Беларусь ніколі не належала Расіі. Калі 532 гады назад да першага падзелу (1772 года) узнікла Вялікае Княства Літоўскае, Расіі наогул не існавала, нават слова такога не было. А Масква ўяўляла невялічкі гарадок Уладзіміра-Суздальскага княства.

На беспардоннае невуцтва гісторыкаў-саматужнікаў можна было б не звяртаць увагі, але апошнім часам кампанія фальсіфікацыі і абразы ўсяго беларускага набыла абвальны характар, накіраваны на абвастрэнне міжнацыянальнай сітуацыі ў рэспубліцы. Не толькі сумненне, разгубленасць і дэзінфармацыя ўносяцца ў душы людзей, сеецца падазронасць і варожасць. А гэта ўжо сапраўды пагражае нашай гістарычнай талерантнасці і адноснай стабільнасці. Мала таго, падбухторшчыкі калечаць душы юнакоў. Мінскі гімназіст піша ў рэдакцыю ліст, за якім адчуваецца вопытная рука спрактыкаванага правакатара, і абвінавачвае эрудзіраванага аўтара ў недасведчанасці. Невуцтва дзялкоў, што прыкрыліся постаццю вучня, з бліскучай аргументаванасцю паказаў абылганы даследчык у сваім адказе. А вось вучань з Баранавіч, сын вайскоўца, пайшоў далей і гучна ўдарыў у набат са старонак самай аб'ектыўнай у свеце газеты ("Правда", 8.12.92 г.): "...яркая пропаганда против русского населения, ... злые выпады в адрес России, проповедуется шовинизм". Далей дзесяцікласнік паведамляе, што яго бацька вымушаны хадзіць на работу з аўтаматам. І як надрыўны боль душы гучыць фраза, якая не можа не закрануць нават самае чэрствае сэрца: "Почему над нами так издеваются?". Усё аказалася блефам — ад пачатку да канца. Але справа зроблена — трывожны гул разнёсся па ўсёй Садружнасці і ўспрыняты многімі як крык аб дапамозе... А гэта выразны злавесны подых канфрантацыі, нікому, акрамя невялічкай, але гарластай купкі здзічэлых ад нянавісці да ўсяго новага правакатараў, непатрэбны.

Бэсцячы гіторыю, ганьбуючы мову, беспакарана зневажаючы святыя сімвалы дзесяцімільённага народа, былыя дыназаўры партыйна-бюракратычнай эліты не толькі зневажаюць "земли чужой язык и нравы", яны замахнуліся на большае, бо добра ведаюць, што народ набывае сваё нацыянальнае аблічча толькі тады, калі ўсведамляе сваё гістарычнае мінулае. Аспепленыя дзікім шалам паклёпнікі ўсіх рангаў не бачаць, што сякуць пад сабой сук, на якім смачна елася і соладка пілося. Ды і цяпер пенсіянер-генерал не памяняецца з вясковым ветэранам сваім дабрабытам... Забыліся, што палку можна перагнуць, і яна другім канцом наб'е гуз. Ужо найбольш гарачыя галовы (а такія заўсёды знаходзяцца), абураныя шэльмаваннем і хлуснёю, мусіруюць пытанне пра стварэнне трыбуналаў нацыянальнай абароны, калі ўрад і парламент і надалей не будуць весці ў межах існуючых законаў барацьбу з антынацыянальнай і антыдзяржаўнай дзейнасцю. Вось вам і другі бок медаля: пачварнае дзеянне выклікае яшчэ больш пачварнае супрацьдзеянне. Бо нават бязмоўны сабака агрызаецца, калі яго цвеляць. Зразумела, пазбавіцца імперскай псіхалогіі некаторым, асабліва тым, хто ўсё жыццё катаўся, як сыр у масле, не надта лёгка, але, як слушна адзначыў у навагоднім віншаванні Б.Ельцын, а яму адтуль, зверху, відней, "імперскі перыяд у гісторыі Расіі закончыўся" і марныя надзеі тых, хто марыць пра аднаўленне "выпрабавальнага палігону камунізму". Пара адумацца і адмовіцца ад дэмагогіі, псіхалагічнага тэрору, фальсіфікацыі, запалохвання вялікай крывёю, грамадзянскай вайной, гэткім беларускім Карабахам, бессаромнай спекуляцыяй эканамічнымі цяжкасцямі.

Памяркоўнасць, стрыманасць, цвярозая ацэнка падзей і ўзаемная павага — адзіны шлях да згоды і пераадолення розных непаразуменняў. Іншай дарогі няма, бо няма сілы, здольнай прымусіць махавік гісторыі круціцца ў адваротным напрамку.

**Станіслаў ЦЯРОХІН,**

**этнограф, ветэран Вялікай Айчыннай вайны і працы.**

*ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма ГАРЭЦКАГА*

# НЕВЯДОМЫ АЎТОГРАФ

Набліжаецца 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. І мабыць самы лепшы спосаб адзначыць стогадовы юбілей — гэта сказаць (альбо знайсці) што-небудзь новае пра жыццё і творчасць гэтага цудоўнага пісьменніка, вучонага, чалавека.

Безумоўна, гэта не проста. Бо новае прыходзіць не тады, калі хочаш, а часцей — нечакана, у самы празаічны момант (часам жа і зусім не прыходзіць). Але калі чаго-небудзь сапраўды шукаеш, то хоць што-кольвечы ды знаходзіцца.

Так аднойчы мне пашанцавала натрапіць на невядомы аўтограф Максіма Гарэцкага, якога я, зразумела, спецыяльна не шукаў. Расказаць пра гэта раней не было асаблівай нагоды, а вось цяпер, як кажуць, самы час.

Было гэта недзе пасля 1986 года, у пару так званай гарбачоўскай "перестройки". Гаварылася тады пра перабудову вельмі многа, а рабілася значна менш. Часцей усё заставалася па-старому. Такі ўжо выпрацаваўся за гады савецкай улады стыль працы! Крывадушнасць была пастаўлена на недасягальную вышыню.

У прыватнасці, у час абвешчанай галоснасці ў нашых бібліятэках аддзелы "спецхрана" як існавалі да 1985 года, так і працягвалі існаваць. І доступ да той літаратуры, якая там знаходзілася, нават для навуковых супрацоўнікаў, быў ускладнены, пра звычайных чытачоў і гаварыць няма чаго. Да таго ж аддзелы гэтыя былі вельмі беднымі. Яно і вядома, нашыя бібліятэкі камплектаваліся па ідэалагічнаму прынцыпу, і кіраўніцтва было не зацікаўлена купляць за мяжой, ды яшчэ за валюту, тыя кнігі, змест якіх супярэчыў нашай ідэалогіі.

Таму, калі ў 1986 годзе мне пашанцавала трапіць на працу ў Польшчу, то побач з асноўнымі занняткамі, а хутчэй разам з імі, таму што выкладчыцкая праца патрабуе пастаяннага наведвання бібліятэкі, я заўсёды, усюды, дзе мне даводзілася бываць: у Вроцлаве, Познані, Курніку, Кракаве, Варшаве, Любліне, — наведваў цудоўныя польскія бібліятэкі і цікавіўся перш за ўсё тым, чаго нельга было знайсці і пачытаць у нашых бібліятэках, у тым ліку і беларускімі выданнямі, якіх у нас альбо не было, альбо цяжка было дастаць. Спецфонды (цымелі) існавалі тады і ў Польшчы, але трапіць туды было значна лягчэй, а што яны былі багацейшыя за нашыя, тут і гаварыць няма пра што.

І вось аднойчы ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве я заказаў усе, якія значыліся ў картатэцы, творы Максіма Гарэцкага. У той час як у Савецкай Беларусі яны знаходзіліся ў "спецхранах", там імі можна было карыстацца свабодна. Калі я іх атрымаў, то першае, што заўважыў, было наступнае: ўсе яны (ці амаль усе, цяпер дакладна не памятаю) паходзілі, як сведчылі маляўнічыя экслібрысы, з бібліятэкі нашага вядомага гісторыка нацыянальнай літаратуры, бібліяфіла і бібліёграфа Рамуальда Зямкевіча (нарадзіўся ў 1881 годзе). Усё жыццё ён пражыў у Вільні і толькі пасля вядомых падзей 1939 года, відаць, ратуючы жыццё ад сталінскіх лагераў, апынуўся ў Варшаве, дзе і памёр у 1943 ці 1944 годзе. Яго ж кнігі (як можна меркаваць па экслібрысах Зямкевіча) былі далучаны да Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве. І шчасце, што яны апынуліся ў такіх надзейных руках! Такім чынам, маё спатканне з кнігамі Гарэцкага з бібліятэкі Зямкевіча дае падставу сцвярджаць, што меркаванне вядомага даследчыка беларускай культуры XIX стагоддзя Янкі Саламевіча, што ўсё, што належала Р.Зямкевічу (рукапісы, этнаграфічныя экспанаты, кнігі і г.д.) загінула ў часе другой сусветнай вайны, патрабуе пэўнай карэкціроўкі. Бо калі ўцалела бібліятэка (ці кнігі з бібліятэкі), то не выключана, што ўцалелі і рукапісы, якія таксама маглі быць далучаны да фондаў Нацыянальнай бібліятэкі. Гэта было першае маё адкрыццё.

Другім было тое, што сярод кніг Гарэцкага я сустрэў малавядомы ў нас яго "Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры",ператлумачаны з беларускай мовы (кім перакладзена, Гарэцкім ці кім іншым, не сказана) і выдадзены ў Вільні ў 1921 годзе. Выданне гэта вельмі рэдкае, здаецца, я яго больш нідзе пасля таго не сустракаў. Гэта было другое маё адкрыццё (для мяне самога).

Але самае галоўнае (і гэта было трэцяе маё адкрыццё), што на адной з кніг Максіма Гарэцкага ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (таксама з бібліятэкі Рамуальда Зямкевіча), менавіта на "Гісторыі беларускае літаратуры" (выданне чацвёртае, пераробленае, Менск, 1926 год) я ўбачыў уласнаручны надпіс выдатнага дзеяча нашага нацыянальнага Адраджэння, адрасаваны Р.Зямкевічу: "Глыбокапаважанаму дзядзьку Рамуальду Зямкевічу. М.Гарэцкі. 15.XI.1926".

Аўтограф — гэта своеасаблівая форма выказвання думкі, пачуццяў чалавека. Ён адлюстроўвае і характар, і погляды таго, хто яго піша, і таго, каму пішацца, іх узаемаадносіны, іх узровень маральнай і духоўнай культуры і г.д. Словам, за аўтографам стаіць цэлая філасофія. Гэта праявілася ў аўтографе Максіма Гарэцкага.

Рамуальд Зямкевіч — чалавек вельмі добра вядомы ў беларусазнаўстве. Ён належаў да нашаніўскіх волатаў, якія пачалі цяжкую працу на ніве беларускага Адраджэння, рыхтаваць гэтую ніву да сяўбы, расчышчаючы ад пустазелля. Працы Р.Зямкевіча ведалі і цанілі і акадэмік беларусазнаўства Я.Карскі, і вядомы этнограф аўтар працы "Беларускі люд" Міхал Федароўскі, і іншыя вядомыя людзі.

Дарэчы, толькі дзякуючы Р.Зямкевічу, яго руплівасці, да нас дайшоў добра вядомы цяпер усім нам гравіраваны партрэт Васіля Цяпінскага.

Але, як у кожнага чалавека, у Зямкевіча былі свае вады. Часам ён вельмі высока ацэньваў свае заслугі і магчымасці, а значыць, недаацэньваў іншых людзей. У прыватнасці, ён лічыў, што калі хто і здольны стварыць першы падручнік па гісторыі беларускай літаратуры, то толькі ён.

А раптам аказалася, што гэта зрабіў малады і мала каму тады вядомы даследчык Максім Гарэцкі, на якога Зямкевіч не зусім разлічваў. Гэта нанесла самалюбству Зямкевіча глыбокую рану і канешне не магло не адбіцца на адносінах да маладога даследчыка.

Але Гарэцкі, як сапраўдны высакародны, шляхетны чалавек, для якога найвышэйшымі заўсёды былі інтарэсы роднай культуры, дараваў людзям іх слабасці, не браў іх пад увагу ў сваіх адносінах. Таму ў аўтографе ён і напісаў: "Глыбокапаважанаму дзядзьку", гэта амаль што свайму духоўнаму бацьку, на працах якога ён будаваў сваё цудоўнае смелае даследаванне — першае ў гісторыі нашай культуры — "Гісторыю беларускае літаратуры" (яно, дарэчы, праз многа гадоў вярнулася да чытача. У 1992 годзе яго перавыдала выдавецтва "Мастацкая літаратура").

Такім чынам, у аўтографе Максіма Гарэцкага бачны цудоўны характар гэтага чалавека, для праяўлення якога яму хапіла ўсяго некалькіх слоў. Так заўсёды ў сапраўды вялікіх людзей: слоў мала, а зместу многа.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**




**НА ЗДЫМКУ: аўтограф М. Гарэцкага і экслібрыс Р. Зямкевіча.**

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**Акварэль называюць каралевай жывапісу. Аднак мінскі глядач далёка не распешчаны выставамі акварэлі.**

**І вось нядаўна Аляксандр Мемус прадстаўляў у Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі свае менавіта акварэлі.**

**Мастак жыве ў Віцебску, горадзе, славутым сваімі мастацкімі традыцыямі і гісторыяй. Мастацкую адукацыю Аляксандр Мемус атрымаў у мастацкай вучыльні ва Уладзівастоку і ў інстытуце імя І. Рэпіна, што ў Пецярбургу. Мемус больш вядомы ў рэспубліцы як графік. І, па асабістаму прызнанню мастака, акварэллю займаецца нядаўна. Тым больш было цікава паглядзець на яго працы.**

**На выставе экспануецца цыкл акварэлей "Сведкі". Мэта цыкла, як сцвярджае мастак, — пошук духоўнага зместу ў жанры нацюрморта. Праўда, на выставе ёсць і некалькі партрэтаў. Аднак сапраўды заўважаем галоўную адметнасць выстаўленых нацюрмортаў — іх духоўны пачатак. Амаль заўсёды карціны цяжка ўспрымаць канкрэтна. Цягне на асацыяцыі, на сімвалічнае іх чытанне. Вытанчаная тэхніка толькі падкрэслівае філасофскі змест прац мастака. Колеры на ягоных аркушах някідкія. Яны захапляюць менавіта стрыманасцю, часам халодным арыстакратызмам фарбаў.**

**Нават здаецца, што Аляксандр Мемус ідзе за вялікім французам Марсэлем Прустам на пошукі страчанага часу. На пошукі таго, што даўно адгучала, амаль адбалела. Такія ягоныя акварэлі "Бывалі дні", "Сведкі даўнія вясны". На першай — разбітыя бутэлькі і келіх, завялыя кветкі. Гэтыя нацюрморты ўспрымаюцца як туга па мінуламу. "Дзве сухія ружы" — думка пра старасць, якая ёсць сімвал завядання, вынікаў. І ў той жа час яна — набліжэнне да жыцця новага.**

**І зноў успаміны, успаміны: "Сведкі", "Прастора часу". Сведкі чалавечага жыцця — нашы рэчы. Аляксандр Мемус выпісвае атлас з ягоным бляскам і выгібамі тканіны, сумныя сухія расліны. Разбітыя рэчы, аджыўшыя свае кветкі — "Ружа, пабітая навальніцай", "Сухія цюльпаны". І зноў успамінаецца Марсэль Пруст і ягоныя словы: "Пэўны ўспамін ёсць толькі шкадаванне аб пэўным імгненні". Мне здаецца, што пад знакам гэтай думкі і напісаны акварэлі мастака, дзе рэчы — сімвалы лёсаў людзей.**

**Вылучаюцца на выставе тры партрэты. Гэта "Аўтапартрэт" і два жаночыя вобразы з трыпціха "Святло веры". Твары жанчын напісаны з выкарыстаннем тэхнікі лубізму. Кубічныя формы неяк натуральна нараджаюць прыродную гармонію колераў. Аднолькавая тэхніка не перашкаджае мастаку ствараць розныя цікавыя характары.**

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКУ: работа А. МЕМУСА "Аўтапартрэт".**

# 25 ТЫСЯЧ НА АДРАДЖЭННЕ

У Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі адбылася перадача 25 тысяч долараў, якія ЮНЕСКА выдзеліла для рэстаўрацыі архітэктурнай святыні рэспублікі — Мірскага замка.

Міністр замежных спраў Пётр Краўчанка перадаў прывезены з Парыжа чэк дырэктару музея Юрыю Карачуну.

— Вельмі хочацца, каб гэтая падзея была падобнай не на ўрачысты цырыманіял, а на звычайную дзелавую сустрэчу, у ходзе якой можна спыніцца на цяжкасцях адраджэння нацыянальнай культуры, вызначыць планы далейшай сумеснай дзейнасці, — сказаў у сваім выступленні Пётр Краўчанка. — А гэта вельмі важна. Эканоміка, маральнасць і культура — фундамент нашай дзяржаўнасці.

Паводле заключэння экспертаў ЮНЕСКА, на сённяшні дзень у краіне ёсць магчымасць весці работы па 24 праектах, якія маюць нацыянальную цікавасць. У спіс сусветнай гістарычнай спадчыны ўнесена Белавежская пушча. Урадам прыкладаюцца ўсе намаганні, каб у гэтым спісе значыўся і Мірскі замак. З выпадку яго 500-годдзя ў бліжэйшыя гады ў сценах замка плануецца правесці нацыянальны музычны фестываль.

*ВЫЙШАЎ І ТОМ БІБЛІЯГРАФІЧНАГА СЛОЎНІКА "БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ"*

# ДЛЯ ЎСІХ, ХТО ЦІКАВІЦЦА ЛІТАРАТУРАЙ

У адным з апошніх нумароў "Голасу Радзімы" была змешчана інфармацыя аб выхадзе ў свет першага з шасці тамоў бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі". Такога выдання наша літаратура, якая налічвае амаль тысячу гадоў, да гэтага часу не мела, хаця яе мастацкія здабыткі прызнаны сёння ва ўсім свеце. У бібліяграфічным даведніку сабрана больш за тысячу артыкулаў, што ўтрымліваюць звесткі аб жыцці і творчасці ўсіх вядомых дзеячаў беларускай літаратуры, незалежна ад таго, на якой мове яны пісалі — старраславянскай, беларускай, рускай, лацінскай ці польскай... Рыхтаваў даведнік вялікі аўтарскі калектыў навукоўцаў, сярод якіх пазначана прозвішча і Лідзіі САВІК. У гутарцы з карэспандэнтам "Голасу Радзімы" Лідзія Сямёнаўна расказала аб няпростым шляху гэтага выдання да чытача, аб цяжкасцях аб'ектыўных, абумоўленых даўнасцю падзей, і перашкодах штучных, якія часткова ўдалося пераадолець, дзякуючы зменам, што адбыліся ў нашым грамадстве за апошнія некалькі гадоў.

— Бадай, кожны народ мае такую энцыклапедыю, а ў беларусаў яе не было, — сказала Лідзія Савік. — Даведнік, першы том якога ўжо можна абмяркоўваць, мы пачалі рыхтаваць у канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў, здалі ў выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" яшчэ ў 1986-м. Таму на ім, напэўна, найбольш будзе адчувацца адбітак часу, і найбольш ён падвергнецца крытыцы. Пачынальнікам заўсёды цяжка, падсцерагалі і нас сюрпрызы, таму што вопыту такой работы мы не мелі. Асноўны цяжар лёг на плечы складальнікаў-спецыялістаў, але мы прыцягвалі да працы ўсіх, найбольш, канешне, філолагаў, хто мог напісаць, сказаць нешта новае пра таго ці іншага пісьменніка. Заказы рассылалі па ўсёй рэспубліцы.

— І ўсё ж, якая канцэпцыя была пакладзена ў аснову пры складанні даведніка?

— Вырашылі даваць, наколькі магчыма, падрабязную біяграфію, аналіз творчасці і бібліяграфію.

У дачыненні да нашых сучаснікаў асноўным крытэрыем для ўключэння ў Слоўнік з'яўлялася членства ў Саюзе пісьменнікаў, персаналія ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", для вучоных, не членаў СП, неабходна была наяўнасць кніг па беларускай літаратуры.

Аднак, як ужо адзначалася, у Слоўніку змешчаны звесткі не толькі пра сучасных пісьменнікаў, але пра кожнага, пачынаючы са Скарыны, Буднага, Сматрыцкага, хто працаваў на ніве нашай літаратуры незалежна ад часу, у які жыў творца, незалежна ад яго поглядаў і мастацкіх прынцыпаў.

— 1 ўсё ж, нягледзячы на такі падыход і надзвычайную скрупулёзнасць, засталіся і нейкія прагалы. Якраз пасля выхаду Слоўніка да нас у рэдакцыю зайшоў вядомы краязнавец Генадзь Каханоўскі. Шчыра радуючыся выданню, са шкадаваннем заўважыў, што магло б яно быць яшчэ больш поўным.

— Так, правільна, але на ўсё ёсць свае прычыны. Калі пачыналася работа, не ведалі, ці ўносіць у Слоўнік імёны рэпрэсіраваных, а тым больш эміграцкіх пісьменнікаў.

Калі вырашылі даваць рэпрэсіраваных, пачалі стукацца ў КДБ, бо толькі там можна было знайсці звесткі аб згінуўшых людзях. Спачатку, аднак, нам сказалі, што і там спраў такіх няма. Параўнаўча нядаўна архівы рассакрэцілі і даследчыкі атрымалі магчымасць знаёміцца са справамі. Іх недзе 220, 175 — чыста пісьменнікі. Многа горкага і трагічнага ўтрымліваюць дакументы, але то ўжо асобная гаворка. Мы ж бралі біяграфічныя даныя, удакладнялі год смерці. Гэта амаль заўсёды — 1937. Раней жа ставілі і 1940, і 42, і 46, і іншыя, каб, мусіць, не палохаць людзей.

Найбольш жа пропускаў у нас таму, што мы проста не знайшлі ніякіх звестак пра таго ці іншага чалавека. Не ведаем амаль нічога пра Тодара Лебяду, пра Дудзіцкага, Лявона Савёнка, Міколу Зарэчнага, іншых. Наколькі мелі магчымасць і мелі звесткі, прадставілі беларускіх эміграцкіх літаратараў.

— Пасля выхаду такога даведніка з'явяцца і новыя звесткі. Ці будуць яны неяк улічаны?

— Пра гэта мы падумалі і таму мяркуем пасля 6-га тома, які меўся быць апошнім, выпусціць 7-мы, дадатковы, куды ўвойдзе прапушчанае. Акрамя таго, нам, напэўна, будуць пісаць, удакладняць штосьці адносна асоб, пра якіх сказана ўжо ў гэтым выданні. Думаю, яно не апошняе, і наступныя будуць больш дасканалымі. Пашырыцца і бібліяграфічны раздзел, таму што сабраць усё з першага разу аказалася проста немагчыма.

— І нягледзячы на крытычныя заўвагі, можна толькі здзіўляцца багаццю бібліяграфічнага матэрыялу. Як удалося яго сабраць?

— У гэтым раздзеле ўтрымліваюцца звесткі пра творы пісьменніка, апублікаваныя асобнымі выданнямі, у зборніках, перыядычным друку, пераклады на іншыя мовы, а таксама літаратура пра пісьменніка. Была створана спецыяльная бібліяграфічная група. Яна працавала не толькі ў Беларусі, але ездзіла па гарадах былога СССР, карысталася кніжнымі, часопіснымі, газетнымі зборамі з бібліятэк Варшавы, Берліна, Сафіі, Лондана.

— На каго разлічаны Слоўнік?

— Ён адрасаваны літаратуразнаўцам, выкладчыкам і студэнтам ВНУ, настаўнікам-філолагам, краязнаўцам, замежным вучоным — адным словам, усім тым, хто цікавіцца беларускай культурай, хто шануе нашы літаратурныя набыткі.

**Гутарку вяла**
**Д. ЧАРАПОВІЧ.**

---

*СВЯТА, ЯКОЕ РЫХТАВАЛАСЯ, А ПОТЫМ ЗГІНУЛА*

# ПЕСНЯ НЕ ДАСЦЬ ДУШЫ ЗАСНУЦЬ

Я разумею: некаму павінна адкрыцца Воля Усявышняга — заснаваць, распачаць, ці, як цяпер разнамасныя навамоватворцы кажуць, запачаткаваць Свята песні. Такое, як у нашых бліжніх суседзяў — балтаў. У 1985 годзе мне пашчасціла быць на такім свяце ў Рызе. Не ведаю, як мяне прадстаўляла, дзе там трэба было ў Латвіі, дацэнт Рыжскай кансерваторыі Луцыя Няфёдава, толькі аказалася я ў эпіцэнтры пашанотных гасцей Свята — сярод латышскай эміграцыі. Божа мой, які гэта быў акіян эмоцый! Імпазантныя эмігранткі і эмігранты — сама ўвага! На выкананні некаторых старадаўніх песень — устаюць і слухаюць стоячы. У Межапарку, гэта значыць, у лясным парку, сотні тысяч латышоў. Што гэта? Свята песні? Свята танца? Свята духавых аркестраў? Свята народных аркестраў? Зводныя хары — дарослыя і дзіцячыя, змешаныя і жаночыя, асобна мужчынскі... потым уся партытура —шматфарбная, мнагагучная разам. Кожны твор — асобная навела, у якой свой аўтар — дырыжор. Пяць гадоў рэспубліка рыхтуецца да гэтага Свята. Пяць гадоў лепшыя рыжскія маэстра харавых спеваў апякуюць усе раёны, гарады і весі. Пяць гадоў паўсюль, дзе ёсць, дзе жывуць, дзе працуюць латышы, — яны спяваюць. Развучваюць адны і тыя ж песні. Выбраны, зацверджаны, прыняты ўсімі абавязковы рэпертуар галоўнага Свята пяцігодкі — Свята песні душы. Так, бо менавіта душы людскія яднае, ажыўляе, родніць гэта Свята. Нацыянальны сход латышоў свету! Акіян музыкі і пачуццяў тых, хто далёка ад радзімы жыве і сытна, і пашанотна, але душа яго стыне на ветры чужацкіх мацерыкоў. Наколькі ж мы бяднейшыя духоўна, калі ні разу не адчулі суладнае біццё нашых сэрцаў, як бывае гэта ў Межапарку. Хто не стаў шчаслівым уладальнікам білета на Свята — а Свята праходзіць некалькі дзён, — думаюць пра іншых. Прытым, памяркоўнасць нацыі надзвычайная: калі мне прыпаў білет на адзін дзень, то на другі дзень я сама не буду яго браць. Чаму? А таму, што яго возьме мой сусед альбо суседка, якім не дастаўся білет на першы дзень. І гэта дзеля таго, каб кожны пабыў на агульнанацыянальным Сходзе.

... Прайшоў Сход беларусаў бліжняга замежжа ў Мінску. А ў ліпені сёлета чакаецца Сусветны форум беларусаў. І таксама ў Мінску. Хацелася б не форум, а кангрэс. І хацелася б, каб усё начыстую: хто што на сэрцы мае — і тутэйшыя, і тыя, што воляй лёсу і абставін былі гнаныя з маці-Беларусі, хто прыкіпеў душой да чужых мерыдыянаў і паралеляў. Свята песні — ці не лепшая форма агульнанацыянальнага сходу, які знітоўвае, цэментуе нацыю?

Мы пагаманілі-пагаманілі напрыканцы васьмідзесятых гадоў: будзе, будзе і ў нас — Юр'еў дзень — Свята песні! Я ў Рызе "вучылася", Козенка — у Вільні. Не помню ўжо, хто ў Таліне "назіральнічаў", але Свята рыхтавалася поўным ходам: быў вызначаны і размножаны, разасланы па абласцях абавязковы рэпертуар Свята песні. У Белдзяржкансерваторыі маэстра Роўда сабраў лепшых знаўцаў харавых спеваў. Дзяліўся сваім вопытам спеваў зводных хароў. Многія дырыжоры хароў рэспублікі — яго былыя студэнты. Цэнтральны камітэт Кампартыі Беларусі ў асобе Івана Антановіча, загадчыка аддзела культуры, і яго намесніцы Паўлы Украінец жыць нікому не давалі. Я гавару пра гэта са шкадаваннем, што сёння ўсе тыя, хто так "адказна" набліжаў дзень першага Свята песні ў Беларусі, з палёгкай уздыхнулі, калі "канторы"... у адначассе не стала. Было, было дурнога многа. Было, што нейкі там "мэтр", невядома якім ветрам закінуты на высокі паверх, дурыў голаў сваім усёзнайствам": сёння ён па курах, а заўтра — па культурах. Але, аказваецца, творча, без паганятых, мы не можам. Ды і былыя "паганятыя" — як толькі без былой партканторы аказаліся — разгубленыя ці што аж дагэтуль, за работу як след самі не бяруцца. Чакаюць "выканаўцаў", якім можаш сказаць, загадаць, і яны панясуць у дзюбе тваю волю. А самім працаваць куды складаней. Некаторыя з былых партыйных культурнікаў у гэтай жа галіне і зараз засталіся, але пра Спеўнае поле, якое меліся ўжо будаваць каля Камсамольскага возера, як бы забыліся. Дзе ж вы, беларусы?! Куды падзеліся вашая мэтапамкнёнасць і жаданне рабіць? Рабіць Свята песні душаў нашых. Функцыянеры з палёгкай уздыхнулі: няма над намі паганятых. Няма над намі, але ж і ў нас — нямашака. Сумлення ў нас нямашака! Куды закінулі той праект Спеўнага поля?! Якія мышы яго вывучаюць?! Як і пераўтварэнне сквера каля тэатра оперы і балета ў сад Максіма Багдановіча! Ажно з яго 90-годдзя загубіўся той праект!

Вось сышлося ў Нясвіжы. На 1993-ці год прыпадаюць такія даты: 770 год гораду, 400 год Палацу і касцёлу, 360 гадоў тэатру Уршулі Радзівіл, 400 год з дня смерці Сымона Буднага, асветніка, друкара. А чаму б не выкарыстаць такога абвалу супадзенняў для заснавання Свята еднасці Музаў? Але ж дзеля гэтага трэба рабіць! А яно няпроста. Гэта ж не тое, што за мяжу выкатвацца! Можна сто разоў пасвяціцца па ўсіх мацерыках, але ці пасвяцее ад гэтага дома, на радзіме?! Можна "прадаваць" за бясцэнь адзін някепскі калямастацкі альбо і надта ж мастацкі калектыў, але ці намнога мы ад гэтага пабагацеем?! Душамі? Альтэрнатывы Святу песні няма.

Сустрэла неяк на рэспубліканскім радыё Віктара Роўду. Памкнулася за ім, спытала: "Віктар Уладзіміравіч, зробім Свята песні па ўзору суседзяў нашых — балтаў?" Такое ўражанне было, што ён не можа ўцяміць, пра што я. Пра той дзіўны сон-надзею, які адсніўся беззваротна?! "А такое возможно?!" Вядома, дарагі маэстра! Не толькі магчыма — будзе! Я ўдзячна Вам, што Вы гатовы ісці ва ўрад і падпісаць любое пісьмо, якое магло б пабудзіць сонную... разгубленую пад націскам бездухоўнасці, спекуляцыі ўсім і ўся Беларусь. Ачніцеся, людзі! Што вы робіце?! Не будзьце марыянеткамі, бязвольнымі, бяздумнымі, абараніце сябе, сваіх блізкіх — і вы абароніце нацыю! Спявайце! Вучыцеся спяваць! Спяваць не толькі па ўзмаху дырыжорскай палачкі, а і ў адзіноце, і ў супольнай працы, у полі, на рабоце і дома. Песня не дасць душы заснуць і апусцець!

У канцы мінулага года ў Міністэрства культуры, у Рэпертуарна-рэдакцыйную калегію, дзе я галоўным рэдактарам вось ужо адзінаццаты год, прыйшоў старшыня праўлення Музычнага фонду Саюза кампазітараў Беларусі кампазітар Віктар Войцік. Даафармлялі пратакол чарговага пасяджэння "рэпертуаркі". Праіндэксавалі ганарарныя грошы, мы па-ранейшаму яшчэ ашчаджаем — множым заробкі на пяць, у столькі разоў "яснавяльможна" дазволена нашым урадам большшыць грошы-аплату за мастацкія наватворы, а цэны вунь як выбрыкваюць дзіка. Але псіхалогія нашая даверу яшчэ таму, колішняму рублю, зусім не мінулася, і мы... абіраем творцу, а хіба ж мы ў тым вінаватыя, што кансерватары: шкадуем, каб хаця не перадаць, не пераплаціць. Не заўсёды па максімуму цэнім творы. Хоць і па "максімуму" ганарар цяпер нагадвае падачку.

Між спраў будзённых губляецца вялікае. А Свята песні — Вялікае. Ураўнаважвання духу, стабілізацыі сённяшняй духоўнай растрэсіны, у якую ўцягваюць і ўцягваюць, волакам валакуць нас банкіры ўсіх масцей. Багата волі ўзялі. Грабуць апошняе. У сляпога, як то кажуць, гатовы палку адабраць. Вы паглядзіце толькі на сытыя рожы гандляроў. Ці хто з іх помніць, што і абжорства — цяжкі грэх?! А тут жа аб'ядаюць сірот і старых, мнагадзетныя сем'і...

Трэба вучыцца спяваць! Спяваць — разам. Разам — граць! Разам карагодзіць! І веру... верую я, што менавіта Песня скліча ўсіх нас, беларусы, на веча яднання. У адзін хор. У адзін храм. І Бог нам у помач!

**Юста БЕЛАРУСКА.**

---

**САСКАРБАЎ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА**

# ЧАРАЎНІЦА

У 1987 годзе ў Маскве праходзіў агляд-конкурс народнай творчасці рэспублік Беларусі і Таджыкістана. Семнаццаць песень у выкананні Надзеі Бурак было запісана на пласцінку ЮНЕСКА. Вясельныя, сірочыя, святочныя беларускія народныя песні гучалі ў выкананні нашай зямлячкі са сцэны Дома літаратара ў Маскве.

Надзея Бурак з вёскі Ахонава Дзятлаўскага раёна — цікавы, неспакойнай душы чалавек. Да ўсяго ёй ёсць справа, кожнаму дапамагчы, кожнага падтрымаць імкнецца гэта ветлівая, з прыгожымі чорнымі, як вішні, вачыма, з прыемнай усмешкай жанчына.

— Такая ўжо я з маладосці, — смяецца Надзея Іванаўна, — ніколі не магла ўседзець на месцы. І лёс мяне не абдзяліў: было гора, нястачы, але шмат было і добрага, з многімі цікавымі людзьмі сустракалася, дзялілася сваім багаццем — народнай песняй.

Нарадзілася Надзея Іванаўна ў Ахонаве. У сям'і Івана Жыгайлы, яе бацькі, было трое дзяцей. Чалавек, які вельмі любіў зямлю, працу на ёй, імкнуўся, каб дзеці мелі хоць нейкую зачэпку, стаўшы дарослымі, марыў пакінуць кожнаму хоць невялікія надзелы зямлі. Іншага лёсу для іх не ўяўляў. Пра пасаг для дзяўчат трэба было думаць з маленства, інакш сядзець ім векавухамі, нягледзячы на тое, што ўдаліся спрытнымі, працавітымі і галасістымі на ўсю вёску. Асабліва Надзейка, якую любіў і шкадаваў больш за іншых. Сям'я берагла кожны рубель, кожны кавалак хлеба. Дзеці хадзілі ў польскую школу, вучыліся грамаце. Спадзяваўся стары, што можа каго з нашчадкаў чакае больш ашчадлівы лёс, верыў, што час зменіцца. Пры Польшчы Іван Сямёнавіч меў тры з паловай гектары добрай ворнай зямлі. За яе, зямельку-карміцельку, давялося расплаціцца ў 1939 годзе перад новымі ўладамі жыццём. Адразу пасля вызвалення бацьку забралі, як кулака, і вывезлі на работы ў Комі АССР.

Перад вайной у пісьмах бацька скупа паведамляў пра сябе, прасіў не высылаць пасылак з харчамі, бо ўсё роўна нічога не атрымлівае, забірае ахова. А для сям'і кавалак сала ці сухі сыр быў добрай падтрымкай, асабліва зімою.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# НЯМА ЎПРАВЫ І ГАСПАДАРА

Першы замаразак на Лагойшчыне прыйшоўся на пачатак кастрычніка. Белы іней лёг на густую няскошаную траву лясной палянкі. Мароз быў невялікі і не перашкаджаў пасвіцца ласісе з ласянём.

Раптам на палянку з гучным брэхам выскачылі паляўнічыя сабакі і кінуліся на жывёл. Ганчакі, мусіць, былі спрактыкаваныя, бо старую ласіху доўга не праследавалі, а дружна пагналі ласянё ў хмызняк. Праз нейкі момант там грымнулі стрэлы. Прайшла гадзіна — зноў стрэлы.

Я не вытрымаў і накіраваўся ў лясны гушчар. Пад высокімі елкамі чатыры паляўнічыя разбіралі двух ласянят. Мне стала нядобра: навошта гэтыя людзі загубілі малых жывёлін? Але задаваць пытанне незнаёмым не асмеліўся.



Затое расказаў у гэты дзень аб трагедыі, якая разыгралася ля вёскі Такаўшчына, знаёмаму лесніку. Спытаў, ці не хоча ён высветліць, што за людзі загубілі маладняк, можа браканьеры?

— Туды не пайду, вясвятляць не буду, — наадрэз адмовіўся ляснік і пачаў расказваць.

Нядаўна ля Такаўшчыны, гэта кіламетраў дваццаць ад Лагойска, выпусцілі больш трыццаці высакародных аленяў. З такога вялікага статку цяпер іх засталося два.

*Нярэдка ляснік чуў стрэлы на сваіх дзялянках. Хадзіў паглядзець, хто там страляе. Трапляў на паляўнічых, што нішчылі дзічыну, задаваў пытанні, патрабаваў паказаць дакументы.

— Справа рызыкоўная: адны пагражалі і са мной расправіцца, і з сям'ёй, і "чырвонага пеўня" падпусціць пад хату — спаліць. Другія ж ледзь не пад нос паперкі совалі: чаго чапляешся, ёсць жа дакументы, дазвол ад адпаведных высокапастаўленых арганізацый — раённых, абласных, нават тады яшчэ рэспубліканскага таварыства. Якія ж там сядзяць бяздушныя людзі, калі выдаюць ліцэнзіі на адстрэл... маладняку! Спрабаваў пераконваць саміх паляўнічых, а яны мне ў адказ: страляем толькі хворых жывёл. І такое наплятуць, быццам бы ледзь не кожнае ласянё альбо хадзіць не можа — ногі адымаюцца, альбо на шаленства хварэе. Чыстае ашуканства! Бачыў пры абходзе лесу, як выбрыквалі ласяняты-гарэзы, а ім потым прыпісваюць хваробу... Адным словам, няма гаспадара. Добра, калі дзічыну сустрэнеш адзін раз на месяц, хаця абходы робіш штодзённа.



Зменшылася колькасць дзікіх жывёл не толькі на Лагойшчыне. У Любанскім лясгасе, напрыклад, забаранілі паляванне на ласёў, бо іх колькасць за апошнія гады скарацілася ў тры разы. І што ж? А нічога! Напярэдадні Новага года знайшлі тут рэшткі чатырох, а пасля, у студзені, яшчэ двух ласёў.

Шукаць браканьераў ніхто не згаджаецца: кіраўніцтва лясгаса ківае на раённае таварыства паляўнічых і рыбаловаў, тыя — на міліцыю... Такім чынам, няма гаспадара, ніхто не хоча абараніць дзікую жывёлу. А ахвотнікаў папаляваць на яе ў наш час вельмі многа.

Праўда, ёсць і супрацьлеглыя факты. На гэтых здымках — Даманаўская паляўнічая гаспадарка Брэстчыны. Егерская служба яшчэ восенню нарыхтавала сена, жалудоў, солі для лясных "сталовак". Наладзіла ахову дзікіх жывёл ад браканьераў, хаця часта людзі рызыкуюць сваім жыццём. Такі Мікалай Круцько (здымак унізе): не дае ён спуску браканьерам, не палохае яго, што імі быў паранены. Ці не таму Івацэвіцкі раён аматары пажывіцца дармавой дзічынай сталі абыходзіць? Каб жа так было ўсюды. На жаль, калі не прыняць дзейсных захадаў, то таго ж ласяя, аленя, казулю ці дзіка мы зможам убачыць толькі ў заапарку.

**Яўген ІВАНОЎ.**
**Фота А. НІКАЛАЕВА.**



*СПОРТ*

## НА КАНІ!

Шасціразовы алімпійскі чэмпіён Барселоны па гімнастыцы Віталь Шчэрба названы ўладальнікам міжнароднай прэміі Джэсі Оуэнса як лепшы спартсмен свету.

Выдатны гімнаст робіць цяпер турнэ па Амерыцы. Ён пакарыў спартыўныя залы ў 25 гарадах ЗША, куды яго запрасілі пасля Алімпіяды.

Калядныя канікулы гімнаст праводзіў дома, у Мінску. Праўда, адпачыць не ўдалося. Але то былі прыемныя клопаты: ён атрымаў трохпакаёвую кватэру ў новым доме.

— Цяпер, вядома ж, не збіраешся прымаць прапановы ад розных замежных клубаў — ўсётакі гняздо сваё звіў? — спыталі ў беларускага спартсмена.

— Вядома, не. Але ад мноства турнэ адмовіцца не магу. Мне проста прыемна выступаць у залах, дзе збіраецца па 15—20 тысяч гледачоў, — адказаў ён.

— У Барселоне ты сказаў, што збірашся давесці лік залатых алімпійскіх медалёў да тузіна.

— Чаму б і не. Ва ўсякім разе думаю выступіць на Гульнях-96.

## ВЫЙШЛІ Ў ПАЎФІНАЛ

На базе каманды футбалістаў мінскага "Дынама" створаны дзве зборныя. Адна з іх адправілася ў турнэ ў Лацінскую Амерыку, а другая — у Маскву на турнір Кубак чэмпіёнаў краін СНД.

З далёкай паездкі пакуль вестак няма. Затое з блізкага зарубежжа прыйшлі прыемныя навіны. Футбалісты "Беларусі" ў Маскве выйгралі ў "Аменэтмена" (Ерэван), "Нормы" (Талін), "Рэгара" (Таджыкістан) і выйшлі ў паўфінал.

Усе ўдзельнікі турніру атрымаюць грашовыя призы адпаведна занятым месцам.

# ЧАРАЎНІЦА

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Пра ўсё самае жахлівае, што выпала на долю Івана Сямёнавіча, сям'я даведалася ад суседа. Ён таксама быў у тым лагеры, але выжыў і ў пяцідзесятыя гады вярнуўся дадому. Голад, гразь, цяжкая праца на лесапавале забралі тысячы і тысячы "ворагаў народа".

След бацькі згубіўся. Пасля вайны маці шмат пісала, прасіла штонебудзь паведаміць пра мужа. І не дачакалася адказу, хоць да канца сваіх дзён не губляла надзеі, спадзявалася, што муж вернецца.

— Да вайны ўся наша сям'я жыла пад страхам, — успамінае Надзея Іванаўна. — Мы, дзеці, усёй душой адчувалі, што з намі можа здарыцца нешта страшнае, непапраўнае. У хату да маці не раз заходзілі прадстаўнікі ўлады і сурова паведамлялі, каб сям'я рыхтавалася да высылкі. Толькі ў канцы саракавых зразумелі, што ўсё трывожна-страшнае мінулася і нас больш не будуць турбаваць. Пайшла ў школу. Некаторы час працавала піянерважатай. Спецыяльнай адукацыі, вядома, не мела, і на маё месца прыслалі дзяўчыну пасля тэхнікума. Я пайшла ў калгас ільнаводам. Неўзабаве прызначылі звеннявой.

Адразу пасля вайны стварылі жанчыны калгасны хор народнай песні. Спачатку, праўда, прымушалі хадзіць, а потым дзяўчаты прывыклі, ішлі ахвотна, з настроем. Часу ў Надзеі Іванаўны было нямнога. Трое малых дзяцей патрабавалі ўвагі. Ды і пакінуць іх не было на каго. Хор звычайна збіраўся ў школе, і даводзілася браць малых з сабою, садзіць за парту, займаць, каб не перашкаджалі.

Спяваць Надзея Іванаўна любіла шчыра, ад усёй душы. Навучылася многім песням ад бацькі, добрага знаўцы абрадаў. Маці таксама спявала. Надзею заўважылі, вылучалі на сольныя партыі. Быў у яе надзвычай прыемны, развіты голас, брала ноту любой вышыні.

У 1958 годзе хор выступаў на першым рэспубліканскім фестывалі ў Гродне, заняў адно з прызавых месцаў. Першае выступленне на вялікай сцэне Надзея Бурак помніць па сённяшні дзень. Яна спявала вясельныя песні.

Не раз Надзею запрашалі ў Мінск, запісвалі на плёнку забытую "Даліну-далінушку" і "Юр'я". У 60—70 гады, калі да беларускай культуры не быо нікому справы, не лічачы сапраўдных майстроў, якія настойліва змагаліся за яе захаванне і адраджэнне, група народнай песні з Ахонава жыла і несла людзям радасць роднага слова. Існуе група і сёння. Нязменнай яе салісткай з'яўляецца чараўніца Надзея Бурак.

У 1990-м Надзея Іванаўна была госцем на свяце, прысвечаным 80-годдзю Генадзя Цітовіча. Выйшаў каляндар за 1991 год, на якім сфатаграфавана група з Ахонава. У цэнтры — Надзея Бурак. Жанчыны спявалі "Юр'я". Аказалася, што абрадавыя песні гэтага веснавога народнага свята дзятлаўскія спявачкі захавалі ў поўным варыянце.

Надзея Іванаўна дастае свой святочны касцюм, узнагароды за рупную працу, розныя фотаздымкі. На добрую зайздрасць багатае на падзеі жыццё гэтай простай вясковай жанчыны. Шчаслівая яна, бо лёс падарыў ёй найлепшы скарб — талент. Ім яна магла і можа шчодра дзяліцца з людзьмі, ён дапамагае ёй жыць, заставацца маладой душою.

**Іосіф ЗАЯЦ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 141.
Падпісана на друку 1.02.1993.